*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 29 красавіка 1988 г. № 18 (3428) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.




**Дзеячы культуры, літаратуры і мастацтва! Узбагачайце духоўны патэнцыял сацыялізму, актыўна ўдзельнічайце ў абнаўленні ўсіх бакоў жыцця грамадства!**

*(З Заклікаў ЦК КПСС)*

## ПАМЯЦІ БУРАВЕСНІКА РЭВАЛЮЦЫІ

Вечна палымнець у гісторыі савецкай літаратуры зоркай першай велічыні Максіму Горкаму, выдатнаму пісьменніку і грамадскаму дзеячу, заснавальніку літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Надзвычай дарагое яго імя беларусам. Ён быў першым, хто даў высокую ацэнку маладой беларускай літаратуры і звярнуў увагу на яе лепшых прадстаўнікоў Янку Купалу і Якуба Коласа. М. Горкі першым пераклаў на рускую мову купалаўскі верш «А хто там ідзе?», які назваў нацыянальным гімнам беларусаў.

Усё гэта згадвалася на ўрачыстым вечары, прысвечаным 120-годдзю з дня нараджэння М. Горкага, які адбыўся ў Доме літаратара. Уступным словам вечар адкрыў В. Быкаў. Выступілі Я. Брыль, І. Чыгрынаў, А. Сульянаў, Э. Ялугін, Л. Караічаў.

На вечары прысутнічалі другі сакратар ЦК КПБ М. С. Ігрунoў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай.



У прэзідыуме вечара. Выступае Янка БРЫЛЬ.

## ПЕСНЯ ЗНАЙШЛА СЯБРОЎ

Гэты вечар у Доме літаратара быў незвычайны. Адметнасць яму дала ўжо сама назва — «Мой лёс — каханне, альбо: Кампазітар Ігар Лучанок і беларуская паэзія». Увесь вечар гучалі ягоныя песні, сааўтарамі якіх «выступалі» В. Дунін-Марцінкевіч, Цётка, Янка Купала, Якуб Колас, М. Багдановіч, П. Трус, П. Броўка А. Куляшоў, А. Русак, М. Танк, П. Панчанка, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вольскі, А. Вялюгін, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, А. Грачанікаў, У. Карызна, У. Някляеў, І. Скурко, А. Ставер, П. Кошаль.

Песні і рамансы выконвалі вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры», дзіцячыя харавыя калектывы, а таксама вядомыя беларускія салісты.



Удзельнікі канцэрта вітаюць Ігара Лучанка.

Тэкст і фота Ул. КРУКА.

СТАРОНКІ СПАДЧЫНЫ: НОВАЕ ПРАЧЫТАННЕ

# ВЯРТАННЕ РАМАНА,
## або Дзіўнае стварэнне Самасуй

**Каб мы ведалі ўсе дробязі жыцця якой-небудзь казюлькі, мы шмат якіх памылак маглі б не зрабіць!**

(Выказванне невядомага вучонага, накрэсленае на плакаце ў кабінеце т. Самасуя)

Парадуемся спярша за чытача, якому пашчасціла прыдбаць студзеньскі — лютаўскі нумары «Полымя», дзе змешчаны «Запіскі Самсона Самасуя». Часопіс на гэты раз — не такая частая з'ява! — не залежаўся ў кіёсках. Парадуемся за беларускі друк — на адзін крок скараціў адставанне ад усесаюзнага ў публікацыі забытай спадчыны. І ўсё ж як у вядомай показцы — «Добра ды кепска» — на дне радасці тоіцца горыч. Да немагчымага мала мы прыгадалі з нашае гісторыі — ў параўнанні з абшарам замоўчвання і забыцця, з цяжарам віны за знявечаныя лёсы. Мрый, Дубоўка, Пушча, Бабарэка, Калюга... Калі працягваць спіс ахвяраў, прыведзены Сяргеем Грахоўскім у прадмове да публікацыі, давядзецца назваць яшчэ дзесяткі імёнаў паэтаў, празаікаў, крытыкаў — напаўзабытых, напаўадкрытых...

**Горкая думка: ці не запозна друкуем? Ведаем жа, што адбываецца з некаторымі творамі, якія залічаны ў катэгорыю «літпомнікаў». У сваім першым жыцці яны здольныя бударажыць чытача, выклікаць эйфарыю ў крытыкаў. Але з цягам часу той жар, што саграваў сучаснікаў, выстуджваецца з твора. І пры ягоным другім нараджэнні спецыяліст, які піша прадмову да перавыдання, усё сваё красамоўства выдаткоўвае на тое, каб даказаць надзённасць і *мастацкую свежасць* сваёй знаходкі.**

**Ці не стануць адроджаныя «Запіскі Самсона Самасуя» здабыткам адно гісторыкаў літаратуры?**

**Аднак лёс «Запісак...» інакшы, чым у згаданых «літпомнікаў». Змешчаны ў трох нумарах «Узвышша» за 1929 год, ён не быў абагрэты ўвагаю і разуменнем крытыкаў, наадварот, паводле слоў аўтара, раман быў аплёваны «агульнымі фразамі і амаль вулічнаю лаянкай». Аглабельшчыкі і вульгарызатары ад крытыкі паспяшаліся начапіць на твор ярлык — «пасквіль на савецкае жыццё». Такім чынам яны пакінулі працы не толькі будучым гісторыкам літаратуры, але і крытыкам.**

Што магло адштурхнуць ад «Запісак...» тагачасных вульгарызатараў? Апроч нязгод і звадаў, што не сціхалі паміж літаб'яднаннямі «Маладняк» і «Узвышша» (да апошняга, як вядома, належаў і Андрэй Мрый)? Апроч паклёпніцтва і даносаў як сродку ацалець у ліхалецці?

Было штосьці ў «Запісках...», як і ў «Катлаване» А. Платонава, што супраціўлялася догмам вульгарызатарскай крытыкі. Паміж двума творамі сапраўды існуе паралель, заснаваная не толькі на падабенстве іх лёсаў. У абодвух адкрываем моцны сатырычны пласт, прытым смех у іх часта высякаецца аднолькавым спосабам: праз парадзіраванне казённых, бюракратычных формул, газетных штампаў, зацяганых лозунгаў. Ёсць яшчэ прынцыповая агульная рыса: **універсальнасць** смеху. Смехам асвятляецца ўсё: людзі, пачуцці, рэчы, з'явы прыроды. Сусветны размах набывае і ажыўлены смехам канцылярыт.

«Калі гляджу я ў твае вочы, забываюся на прафсаюз...» — вылівае свае пачуцці закаханы т. Лін, персанаж «Запісак...» У «Катлаване» тое ж пачуццё, але ў фазе заміранн: «Сёння раніцой Казлоў ліквідаваў як пачуццё сваё каханне да аднае сярэдняй пані».

У «Запісках...» аднаасобніцкая кабылка «здзіўлена пазірала на слаба каардынаваныя рухі свайго гаспадара і яго палітычна нявытрыманую тактыку». У «Катлаване» палітычную падкаванасць выказвае табун ужо абагульненых коней: «Роўнай хадою, не апускаючы галоў да расліннай ежы на зямлі, коні згуртаванай масай абмінулі вуліцу і спусціліся ў яр, у якім змяшчалася вада».

Сцюдзёнае надвор'е ў «Катлаване» азначае, што недзе ў прыродзе «дэзарганізацыя». Калі ж у «Запісках...» ідзе дождж, то гэта няйначай з варожага самагоннага апарата, схаванага недзе паміж хмарамі. Вульгарызатары, што «выкрывалі» Мрыя як пасквілянта, маглі б прычапіцца і да гэтых радкоў: пасквіль на наш, савецкі дождж! Ім не ставала розуму, каб уцяміць, што калі мастак кпіць з праяў жыцця, дык гэта яшчэ не значыць, што ён гэтага жыцця не любіць!

Шляхі «Катлавана» і «Запісак...» па-за гэтай універсальнасцю смеху разыходзяцца. Платонаўскі раман скіраваны да роздуму аб будучыні, аб ахвярах і стратах, якімі яно аплачваецца. У «Запісках...» пераважае ўважлівы погляд праз павелічальнае шкло — на зрэзы грамадства. Ствараецца цэлы свет сатырычных персанажаў — Шапялёўка. Гэтага таксама не змаглі прыняць вульгарызатары. Мрый дагадзіў бы ім, каб уставіў у раман хаця б адзін станоўчы персанаж альбо падзяліў бы шапялёўцаў на сваіх і чужых, чорных і белых. А ў яго атрымаліся ўсе перапялёсыя.

Мастак ляпіў сатырычныя тыпы, не зважаючы на тое, што разгледзяць у іх крытыкі. Няўклюдныя постаці з прозвішчамі ні то рыб, ні то іншых істот спакваля ачалавечваліся, абжывалі свет, у якім шчыльна перапляліся рэальнасць і гратэск. Вось т. Сом — флегматычны, паважны, якою і павінна быць рыбіна на пасадзе старшыні райвыканкома. Каля яго, нібы маляўкі, даволі зручна атабарыліся дробныя чыноўнікі местачковага маштабу. Паміж імі— «адыёзная рыба» Лін, нехта Самчык, нейкія Курапат і Курыца, якіясь Зязюлька і Крутарожкава. Свет рыб і птушак.

Натуральна, у гэтым жывёльным свеце прымітыўныя інстынкты значаць болей, чым прынцыпы, ідэалы. Дакладней, ідэалы прыстасоўваюцца да жывёльных патрэб. Не аднаго таварыша Ліна прымусіла забыцца на прафсаюз і на грамадскія абавязкі Крэйна Шуфер — за вяртляваю рыбкаю ганяюцца і Самасуй, і нават Сом...

Яны ўсе «матэрыялісты», бо цвёрда засвоілі адно: галоўнае — дагадзіць страўніку. Адзін з лепшых эпізодаў рамана — дзе шапялёўцы сабраліся ў лесе і паглынаюць гэтую самую «матэрыю» з надзвычайным імпэтам, ажно трашчыць за вушамі. Усё, што не «матэрыя», мала каго цікавіць. Таму і Самасуй на пачатку свае шапялёўскай кар'еры мала трывожыў тутэйшае мяшчанства — не замінаў працэсу стрававання. Выбрыкі памаўзлівага Ліна таксама не надта каго турбуюць.

«Кожны з нас — лін», — некалі ў задуменні прамовіў местачковы філосаф Торба. Вось ужо напраўду торба ўсялякае жыццёвае мудрасці, напалову зачэрпнутай з фальклору, напалову — з уласнага вопыту. Гэта вопыт паслядоўнага канфарміста, але ён кідае святло на тыя грамадскія заганы, якія спараджаюць ліноў, торбаў і самасуяў. Сёе-тое з Торбіных мудрасловўяў нібыта спецыяльна адрасавана пазнейшым часам застою: «Што пішы, а што ў галаве насі», «Увесь век вывучай наменклатуру» і г. д.

Разам з тым увесь стракаты свет *шапялёўскага мяшчанства* — фон, створаны дзеля адной постаці. Наперадзе ўсіх бадзёра ўзмахвае плаўнікамі дзіўнае стварэнне Самасуй.

**Не давай ёлупу агонь у рукі!**

(З блакнота філосафа Торбы)

«Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў бы дамагацца, што я — сучасны чалавек», — прадстаўляецца наш герой. На жаль, яму і сёння хапіла б нахабства выдаць сябе за сучасніка. Самасуеўшчына — як хвароба ці стыхійная навала, якая можа абрынуцца зусім раптоўна. Таму не лішне ведаць, адкуль такое бярэцца. Асяроддзе, у якім самасуі пачуваюцца найболей выгодна, вядомае: сытае, самазадаволенае мяшчанства. А сацыяльныя карані?

Тут дарэчы такі адказ: карэнняў няма. У тым сэнсе, што самасуі найчасцей выракаюцца асяроддзя, у якім выгадаваліся, бо яно замінае іхнім авантурам. «Трынку, валынку, свету палавінку аб'ездзіў...» — бядуе аб сыночку Самасуева маці. А ён сам пра сябе з гонарам кажа: «Я чалавек бывалы». І каб паверылі, паўшэптам распавядзе нават такі цікавы эпізод: «Некалькі разоў сядзеў я пад арыштам і карміў сваёй чырвонай кроўю блох ды іншых шасцікрылых і шасціногіх херувімаў і сарахвімаў. Ды і не магло быць інакш з маім тэмпераментам». Вядома, калі і напраўду сядзеў, то не з-за тэмпераменту, а з-за дураты, нявопытнасці. Але ж выскачыў сухі з вады і пакаціўся далей. Чалавек — перакаці-поле.

«Я з мужыкоў», — з гонарам піша ў кожнай анкеце, але кабылу запрэгчы ўжо не ўмее, ці прыкідваецца, што не ўмее. Вядома, самасуі бываюць розныя. Галоўнае, што без карэнняў.

**Такім лягчэй прычапіцца, прымазацца да ўсяго, што сустрэнецца па дарозе. Прайдзісвет Самасуй становіцца ў Шапялёўцы галоўным «рычагом культуры». Мрый не шкадуе гратэскавых фарбаў, каб паказаць, што можа наварочаць гэты «рычаг», маючы апірышча ў асяроддзі абывацеляў. Чым бы ні заняўся Самасуй — трэніроўкай пажарнікаў, аблавай на сабак, «шалёнай барацьбой з рэлігіяй», — усё прыводзіць да сумна-карыкатурных вынікаў. Лозунгі, газетныя вытрымкі, па*літычныя заклікі ў ягоных* вуснах перарабляюцца на бязглуздзіцу, накшталт лекцыі «Аб гангрэнах нашага часу». Падобную ўласцівасць некалі бязлітасна выкрыў Дастаеўскі ў адным з персанажаў «Злачынства і пакарання» пане Лебязятнікаве: «Гэта быў адзін з таго незлічонага, рознаабліччага легіёну пашлякоў, здыхлаватых неданоскаў і недавучаных самадураў, якія мігам прыстаюць абавязкова да самай моднай хадзячай ідэі, каб адразу ж апашліць яе, каб умомант абкарыкатурыць усё, чаму яны ж часам самым шчырым чынам служаць». Сом выказваецца на гэты конт больш лаканічна і ёмка: «Дурыла ва ўсесаюзным маштабе». Такім сапраўды небяспечна даваць агонь у рукі.**

Але ці такі ўжо дурань? Можа быць, у пэўных абставінах выгадна хадзіць у дурнях, а быць сабе наўме? У Шапялёўцы Самасуй не губляе часу — авалодвае поўным наборам бюракратычных адмычак: увязка, узгадненне, урэгуляванне... Прыгледзецца як след — і ў знешне бессэнсоўнай Самасуевай мітусні, па-за гратэскавым камізмам прагляне злавеснае. Вось пры непасрэдным удзеле Самасуя праводзіцца сход, на парадку якога — выкарчаванне «ворагаў Савецкай улады», г.зн. канавалаў. А суд над Торбай, дзе Самасуй выступае як *зацяты абвінаваўца свайго ж нядаўняга дружбака*?..

Калі трэба, на Самасуевым твары расплываецца «амерыканская ўсмешка». Ён вялікі аматар паэзіі — з асалодаю ўслухоўваецца ў бурапенныя радкі паэта Гарачага. А вось ён у задуменні любуецца, як хораша бяжыць рака з-пад моста каля могілак. Паэтычная, далікатная, чуллівая натура...

Найболей жа любуецца сваёй персонаю. «Я выцягнуўся і стаяў перад дзяўчынай высокі, уважлівы, з свежым, мужным (праўда, кірпаносым) тварам чалавек», — ну проста Нарцыс! «Няхай жыве мая асоба!» — адкуль скаліраваў Самасуй гэты заклік? Ці выпадковае падвоенае «сам» у імені і прозвішчы антыгероя? Пра што нагадвае *зацятая барацьба* гэтага персанажа супраць «антысамасуйнага блоку», што ўтварыўся ў мястэчку?

Па вобразу і падабенству...

Хацеў таго Мрый ці не, але ўнутраная логіка «Запісак...» даводзіць наступнае: культ асобы спараджае вялікае мноства пераймальнікаў на месцах, прытым кожны з іх употай стварае культ уласнага «я». А Мрый жа ў зняволенні, зламаны фізічна і маральна, яшчэ спадзяваўся на заступніцтва і разуменне «друга працоўных», запрашаў яго ў рэцэнзенты свайго рамана...

Але, што датычыць Самасуя, — дзе ў яго сапраўднае, а дзе маска?

Трэба лавіць моманты, калі ён не хлусіць перад сабою. Тады самаіронія — традыцыйная рыса нашай літаратуры — ператвараецца ў цынізм: «Пра сябе скажу, што іншы раз я вельмі абураны ангельскімі імперыялістамі, здаецца, горла ім перарэзаў бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцця. Так салодка мару, што пасля і самому сорамна робіцца. Нават чырванею».

Але хвіліны Самасуевай шчырасці надта рэдкія, дый сам ён не заўжды разумее самога сябе. Няўлоўны, слізкі суб'ект. Таму цяжка падвесці рысу і канчаткова вырашыць, хто ён ёсць.

Дурань — але сабе наўме.

Да сапраўднага бюракрата не дацягне — бракуе ўседлівасці, вагі.

Калі кар'ерыст — дык не тыповы. Тыповыя саматугам рухаюцца па службовай лесвіцы, падбіраючы пад сябе слабейшых. Самасуі робяць кар'еру інакш. Ад іх імкнуцца пазбавіцца, перакідаючы з пасады на пасаду, але зусім сапхнуць з лесвіцы не адважваюцца. «Такія людзі нам патрэбны. Часам дзірку якую заткнуць», — разважае мудры Сом. Тады спахопяцца — а ён ужо над імі. Вунь як высока падкінулі.

Па-старому — прымазанік, прайдзісвет, прыстасаванец; па-новаму — імітатар. Але ёсць у ім нешта загадкавае, што не памяшчаецца ў гэтых словах. Таму адна з асноўных яго рысаў — няўлоўнасць, зменлівасць. Дзякуючы ёй самасуі праслізгваюць скрозь фільтры рэвалюцыйных змен у грамадстве і заўсёды аказваюцца побач з намі.

**Ат! пройдзе ўсё, а я застануся.**

(З выказванняў Самсона Самасуя)

Кніжны Самасуй сапраўды працягвае жыць, выклікаючы ў чытача смех і абурэнне, хаця твор аб ім зведаў і чорныя дні. Трэці яго сшытак, дзе апавядалася *пра новыя прыгоды Самасуя*, страчаны, можа быць, назаўсёды. Фінал рамана, такім чынам, вымушана адкрыты — адкрываецца проста ў драматычную рэальнасць. Рэальная самасуеўшчына раптоўна абрынулася на лёс яе першаадкрывальніка — факт, унікальны паводле сваёй трагічнай іроніі. Парадаксальны лёс рэальнага прататыпа, нейкага Казака, — ён таксама ператвараецца ў ахвяру. Толькі літаратурны Самасуй красуе на ўцеху чытачу. Але ці толькі літаратурны?

Самасуеўшчына — анахранізм?

Сатыра Мрыя дальнабойная, яна папярэджвае аб рэцыдывах хваробы, якія меліся не толькі ў культаўскую, але і ў так званую застойную пару. Прыгадайма, напрыклад, недарэчнае перайменаванне нашых вуліц і гарадоў. Падобнае было ўжо ў «Запісках...»: пад уплывам Самасуя ў Шапялёўцы з'яўляецца вуліца імя т. Сома, дый само мястэчка ледзьве не перайменавалі ў Сомск.

**Самасуі працягваюць прыстасоўвацца. Іх не так проста схапіць за руку, лягчэй вызначыць па слядах злачыннай дзейнасці. Калі, скажам, руйнуецца старадаўняя царква і на яе падмурку ўзводзіцца *піўнушка*, калі паміж руін сярэдневяковага замка будуецца кароўнік, пашукайма вачыма мясцовага самасуя. Ён павінен быць паблізу, з ягонаю неўтаймоўнай «агідай да старога», г. зн. да нашай гісторыі, культурнай спадчыны, народных традыцый.**

**Пашукайма паміж «ціхіх пенсіянераў», якія гэтак упарцяцца дэмакратычным зрухам у нашым грамадстве. Пашукайма паміж «салаўёў перабудовы»; можа быць і ён, скінуўшы ношку гадоў, свішча ў адзін голас з імі. Добра, калі толькі свішча, бо куды горай, калі самасуі, закасаўшы рукавы, бяруцца самі штосьці перабудоўваць.**

Маючы «двайнікоў» у жыцці, у літаратуры (паміж жулікаў, авантурыстаў, махляроў з слынных кніг), Самасуй непаўторны. Як адметны і смех, праз які ён самавыяўляецца. Побач з парадзіраванымі канцылярызмамі ў ім зіхцяць перлы народнага гумару. Наўрад ці ўдасца каму пераняць гэты стыль — дый ці варта? Але вучыцца нязмушанасці, нечаканасці смеху ў Мрыя — можна. Яшчэ — шырыні смехавага дыяпазону. Я б сказаў нават, што смех у яго часам б'е цераз край. Месцамі гэты смех дзеля смеху — калі кпяць з грыба лікапэрдума, з барадаўкі, што «мела рэзідэнцыю на патыліцы». Але за гэтымі дэталямі можна ўбачыць што хочаш, толькі не беднасць, аднастайнасць гумарыстычных сродкаў. У апошнім часцей даводзіцца папракаць сучасных сатырыкаў і гумарыстаў.

Вядома, асобныя мясціны «Запісак...» сённяшняму чытачу кажуць куды меней, чым сучаснікам Мрыя. Але ёсць і такія старонкі, што толькі сёння выяўляюць свой дадатковы, надзвычай актуальны змест. Час па-новаму ставіць акцэнты ў творы — раман рухаецца, жыве.

Гэта жывая спадчына.

Пятро ВАСЮЧЭНКА.

КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# ПРА АДКАЗНАСЦЬ ПЕРШЫХ КРОКАЎ

ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ

УЗЯЎШЫСЯ адгукнуцца на выданне з серыі, за якой даўно сачу з цікавасцю, я хацеў спачатку закрануць пытанне, як у нашым друку сустракаюцца і бласлаўляюцца тыя, хто выпускае ў свет сваю першую кнігу. Але сабраўшы свае нататкі і назіранні, адчуў, што гэтым разам не здолею нават назваць найбольш істотныя моманты адказнейшай справы асвятлення літаратурных дэбютаў. Пра стан яе аніяк нельга весці гаворку прыхапкам, абыходзячыся адной канстатацыяй і дзвюма заўвагамі.

Акрамя спамянёнага вышэй, мяне цікавіла яшчэ адна няпростая, але ўсё больш адчувальная праблема, некалі сфармуляваная К. Марксам так: «Зброя крытыкі не можа, вядома, замяніць крытыкі зброяй...» Зразумела, у дачыненні да нашага літаратурнага працэсу, і найперш да тых актыўных, дзёрзкіх да рызыкоўнасці прадстаўнікоў яго, што агулам называюцца маладой зменай, якая — натуральна, па-рознаму — будзе сталець і не толькі замяняць некага, але і мяняць нешта.

Дык вось, адштурхоўваючыся ад усяго гэтага, ёсць сэнс разабрацца, што мабілізавала І. Клімянкова да «зброі крытыкі» ў яго ўласным водгуку на кнігу з серыі «Першая кніга празаіка» («ЛіМ», 4.V.1987 г.). Прасочым за зместам ягонай рэцэнзіі і найперш звернем увагу на загаловак— «Кволасць першага кроку». Ці былі падставы менавіта так фармуляваць ацэнку зборніка «Сцежка»? У адказах на гэтае пытанне могуць выяўляцца розныя пазіцыі, але, не аспрэчваючы выказаную, лічу патрэбным уважліва падысці да яе.

Як такая ацэнка абгрунтоўваецца?

Іван Клімянкоў. Сеанс гіпнозу... Апавяданні. (Першая кніга празаіка). — Мн., «Мастацкая літаратура». 1987.

У дачыненні да першага з аўтараў сцвярджаецца, што не спраўдзіліся спадзяванні «на пэўную мастацкасць... (яго) твораў, на глыбіню і значнасць пастаўленых ім праблем». Прыпыніцца варта ўжо на гэтым. І задаць пытанне: што рэцэнзент разумее пад «пэўнай мастацкасцю»? Я, напрыклад, разумею так: мастацкасць або ёсць (мера не вызначаецца) — або няма; паў-, трэць-, чвэрць-... мастацкасці не бывае. І далей: выказанае патрабаванне «глыбіні і значнасці пастаўленых праблем» у агульнай дэкларацыі заўсёды здаецца разумным. Аднак пачні канкрэтызаваць—і адбываецца дзіўнае: кожны факт патрабуе сваёй кваліфікацыі, нават пры вялікім падабенстве, пры той самай праблематыцы. Мабыць, справа не ў праблеме, якую ў апавяданні В. Добкіна не прызнае І. Клімянкоў. Бо як быць тады з блізкімі па тэматыцы і праблематыцы «Муму», «Каштанкай», «Белым Бімам»... і, зрэшты, апавяданнем самога Клімянкова «Злы сабака»?

Трэба думаць, што на слушныя патрабаванні («глыбокіх і значных праблем») апрыёрна арыентаваліся гэтак жа, як і сам І. Клімянкоў, усе аўтары зборніка «Сцежка». Вось толькі «ставілі» кожны па-свойму, адпаведна сваім магчымасцям. Таму і «праблемы» ў іхніх тэкстах існуюць проста як зададзеныя, а не ўвасобленыя, як загадзя сфармуляваная думка, а не як эстэтычная рэальнасць.

Дарэчы, Клімянкоў-рэцэнзент спрабаваў растлумачыць прычыны такіх вынікаў. І ў дачыненні да апавяданняў В. Добкіна канкрэтызаваў свае заўвагі наступным чынам: «Наіўнасць і штучнасць сюжэтаў, бутафарычнасць, псіхалагічная неабгрунтаванасць характараў і ўчынкаў герояў сустракаюцца вельмі і вельмі часта».

А што выйдзе, калі з тым самым рахункам падысці да кнігі «Сеанс гіпнозу» Клімянкова-празаіка? Скажам, да сюжэтаў апавяданняў «Мішка», «Ісціна», «Жывіца», «Начная сустрэча», «Вяртанне», «Злы сабака» і асабліва да таго, якое дало назву кнізе? Бо, калі кіравацца крытэрыем «натуральнасць — штучнасць», то ці можна лічыць натуральным, тыповым, ненаіўным і нядзіўным тое, што чалавек, які лёгка ловіць грошы, раптам бярэцца лавіць маланку, а другі, спаразумеўшыся з чацвераногім «братам меншым», па начах з ім «дурэе», «баракаецца»? Зноў-такі, ці так ужо «псіхалагічна абгрунтаваны характары» апантанага Мішкі, «ракавой жанчыны» Элы, усіх яе каханкаў, а таксама герояў апавяданняў «Вяртанне» (Лабанаў), «Раздарожжа» (Зубровіч)?

Асаблівай увагі, на мой погляд, заслугоўваюць наступныя закіды таго ж самага плана: «аўтару хочацца эфектнасці» і «дзеля гэтага даводзіцца ісці ўразрэз з логікай, праўдай» (пра «Дарожнае здарэнне» В. Добкіна). «Апавяданне «Начная размова» наўрад ці можна разглядаць як нешта сур'ёзнае, мастацкае. Усё, што адбываецца ў ім, —выдумка, у аснове якой ляжыць анекдатычная сітуацыя» (пра апавяданне Я. Таганава).

Тут я прашу дазволу на спрошчанае параўнанне: у службовых справаздачах, судовых справах і да т. п. нікому не дазваляецца «ісці ўразрэз з логікай, праўдай», але наўрад ці аўтары іх будуць лічыць сябе пісьменнікамі; у той жа час многія нашы папярэднікі і сучаснікі (напрыклад, Я. Баршчэўскі і М. Гогаль, М. Булгакаў і Г. Маркес, А. Платонаў і У. Караткевіч) з «выдумкамі, у аснове якіх ляжаць анекдатычныя сітуацыі», займалі пачэсныя месцы ў вялікай літаратуры. Значыць, зноў-такі не ў тым справа.

І, мне здаецца, І. Клімянкоў гэта добра разумее. Болей можна сказаць: ягоны «Сеанс гіпнозу» — спроба, зарыентаваная цалкам на «анекдатычную сітуацыю».

Адразу лічу неабходным падкрэсліць, што матэрыял, за які ўзяўся Клімянкоў-празаік, толькі на першы погляд удзячны і падатлівы. Спалучэнне двух пластоў — рэальнага і ірэальнага — не спрашчае, а наадварот ускладняе магчымасці апрацоўкі, стварэння трэцяй — эстэтычнай — рэальнасці, у якой так ці інакш павінны быць свае законы. І вось гэтых законаў аўтар апавядання «Сеанс гіпнозу» прытрымліваўся, мякка кажучы, непаслядоўна. Таму праніклівы чытач мае ўсе падставы скарыстаць словы, якія некалі адрасаваліся аднаму з аўтараў зборніка «Сцежка»: «Перабор відавочны».

Што канкрэтна маецца на ўвазе? Па-першае, сюжэт, пра які ўжо згадвалася: няхай сабе загіпнатызавана дзейнічае галоўны герой Бельскі, але чаму шэраг момантаў падаецца ва ўспрыманні іншых герояў (жонкі, псіхіятра, хірурга) — выходзіць, гэта сеанс і калектыўнага і сама-гіпнозу? Непаразуменне выклікае сувязь (нематываваная) з хірургам Мадзеевым, незалежна ад яго ўдзелу ў парапсіхалагічных доследах. І яшчэ ўзнікае пытанне, хто каго загіпнатызаваў, калі перад сеансам пацыент называе ўзрост «32 гады», а прафесар-псіхіятр пасля сеансу, у фінальнай размове паведамляе: «І вам трыццаць тры гады».

Як казаў сам І. Клімянкоў, «у душы... чытача застаецца сумненне, недавер», калі надараюцца такія вось месцы:

«Бельскі схапіў аберуч яго руку, сціснуў так, што прафесар міжволі зморшчыўся, крыкнуў:

— Навучыце, што мне рабіць, як жыць далей?

— Але прабачце, — прафесар паціснуў плячыма. — Я

# Не ў ладах з фактамі

ЦЯПЕР, калі ўзрасла цікавасць да гісторыі роднага краю, калі ў літаратуры і мастацтве гістарычная тэма перажывае свайго роду адраджэнне, у рэспубліканскіх і мясцовых газетах можна прачытаць пісьмы чытачоў з просьбай расказаць пра жыццё людзей, імёнамі якіх названы вуліцы ў гарадах і вёсках, заводы і калгасы, школы і піянерскія дружыны, караблі і пагранічныя заставы. І гэта натуральна: наша краіна, як сказаў Міхаіл Кальцоў, любіць герояў, таму што гэта геройная краіна.

І вось перад намі салідны том «Іх імёнамі названы...», выпушчаны выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. У. Броўкі. У ім больш за 1800 імёнаў людзей, увекавечаных у Беларусі. Побач з артыкуламі пра дарагія з дзяцінства імёны шырока вядомых дзеячаў у даведніку змешчаны і матэрыялы пра маловядомых ці зусім невядомых чытачам герояў вайны і працы. Нават кароткія, лаканічнымі штрыхамі напісаныя біяграфічныя даведкі чытаюцца з вялікай цікавасцю: настолькі яркім і багатым на ратныя і працоўныя подзвігі, на бескарыслівае служэнне Айчыне і роднаму народу было жыццё многіх людзей.

Ці ж можна, напрыклад, абыякава чытаць вось такія мясціны з біяграфічных даведак, прыведзеных у кнізе?

Іосіф Юр'евіч Філідовіч, партызанскі сувязны, дастаўляў у партызанскі шпіталь прадукты і медыкаменты. Даведаўшыся пра яго патрыятычную дзейнасць, фашысты пад пагрозай расстрэлу яго родных спрабавалі прымусіць Філідовіча паказаць ім дарогу ў шпіталь. Філідовіч «згадзіўся» і завёў іх у непраходнае балота.

Летам 1812 года, калі французская армія заняла Полацк, Міронава Фядора, прыгонная сялянка з вёскі Пагіршчына, стала разведчыцай рускай арміі. Выконваючы заданне камандавання, здабывала каштоўныя звесткі пра ворага. У лістападзе 1815 года генерал Я. І. Властаў, хадайнічаючы перад былым начальнікам Галоўнага штаба П. М. Валконскім аб узнагароджанні Ф. Міронавай, пісаў: «Заслугі гэтай жанчыны... у тым, што, будучы неадназова пасланая ў Полацк для разведвання становішча праціўніка, яна ніколі не баялася ахвяраваць сваім жыццём, кіруючыся адной аддансацю і любоўю да Радзімы, ішла на ўсе небяспекі, што пагражалі ёй смерцю, і дастаўляла адтуль правільныя і карысныя звесткі». Указам Аляксандра І Ф. Міронава ўзнагароджана сярэбраным медалём з надпісам «За полезное», грашовай прэміяй і ў 1820 годзе разам з сям'ёй вызвалена ад прыгонніцтва. Іменем Ф. Міронавай названа вуліца ў горадзе Полацку.

Ураджэнец Магілёўшчыны генерал Якаў Іванавіч Драйчук да апошніх дзён жыцця падтрымліваў блізкую сувязь з жыхарамі роднай вёскі Ржаўка. Па заказаным ім праекце і часткова на яго сродкі ў Ржаўцы ўзведзены будынак бібліятэкі. У фонд гэтай бібліятэкі генерал перадаў больш чым 23 тысячы кніг.

Камсамолец Казімір Марач, былы студэнт Ваўкавыскага заветэрынарнага тэхнікума, у 1970 годзе быў прызваны на службу ў Ваенна-Марскі Флот. Выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі, старшына 2-й статці, воін-патрыёт Марач у крытычнай сітуацыі коштам свайго жыцця папярэдзіў гібель падводнай лодкі. Іменем К. Марача названы вуліцы ў Ружанах і Пружанах. У музеі Пружанскага саўгаса-тэхнікума яму прысвечана экспазіцыя.

Слоў няма, калектыў БелСЭ, журналісты і краязнаўцы сабралі велізарны дакументальны матэрыял. Аднак шматлікія памылкі і недакладнасці, на жаль, не даюць падстаў сказаць, што яны якасна апрацавалі гэты матэрыял, падрыхтавалі праўдзівыя біяграфічныя артыкулы пра людзей, імёнамі якіх названы вуліцы, сёлы, караблі і піянерскія дружыны. Гэта тычыцца не толькі маловядомых, але і неаднойчы апісаных у гістарычнай літаратуры падзей і фактаў, якія даўно сталі здабыткам шырокай грамадскасці.

У артыкуле пра палкоўніка С. Ф. Куцепава, напрыклад, героя абароны горада Магілёва, гаворыцца: «Баі за горад працягваліся да 26 ліпеня... Пісьменнік К. Сіманаў, які ў час баёў знаходзіўся на пазіцыях гэтага палка...»

Але ж К. Сіманаў не раз пісаў і гаварыў, што яго знаходжанне ў 388-м стралковым палку, які абараняў Магілёў, было кароткачасовым, менш за суткі — з 13 на 14 ліпеня 1941 года. К. Сіманаў многае, вядома, зрабіў, каб увекавечыць у памяці народнай імёны і справы жывых і мёртвых абаронцаў беларускага горада на Дняпры, але нельга ўсё ж відавочцу вынікаў бою ператвараць ледзь не ва ўдзельніка шматдзённай гераічнай эпапеі. Замест такой «прыпіскі» трэба было б, відаць, сказаць, што С. Ф. Куцепаў паслужыў для пісьменніка правобразам генерала Сярпіліна.

Дарэчы, калі ўжо зайшла гаворка пра абарону Магілёва, заўважым, што даволі невыразна пра гэтую абарону сказана ў артыкуле пра генерал-маёра М. Т. Раманава: «...Адзін з кіраўнікоў абароны Магілёва: камандзір стралковай дывізіі, часці якой разам з атрадамі Магілёўскага народнага апалчэння ўтрымлівалі кругавую абарону». Як доўга абаронцы «утрымлівалі кругавую абарону»? Якое стратэгічнае значэнне мела гэтая абарона? Пра гэта ні слова. Але ж Маршал Савецкага Саюза А. І. Яроменка, назваўшы абарону Магілёва «правобразам гераічнай абароны Сталінграда», пісаў: «...гераічная 23-дзённая абарона Магілёва з'явілася прыкладам доблесці і самаадданасці савецкіх воінаў і грамадзянскага насельніцтва, іх непарушнага адзінства».

У артыкуле пра патрыёта славацкага народа, інтэрнацыяналіста Ладзіслава Дынду гаворыцца: «У лістападзе 1942 прызваны ў нямецкую армію, служыў у славацкім палку... У студзені 1943 перайшоў у гомельскі партызанскі атрад «Бальшавік», паведаміўшы аб маючай адбыцца карнай аперацыі гітлераўцаў, што дало магчымасць партызанам без страт змяніць месца дыслакацыі».

Па-першае, Л. Дында, як і Ян Налепка, быў мабілізаваны не ў нямецкую, а ў марыянетачную славацкую армію прафашысцкім урадам Ціса, які і накіраваў полк, у якім служыў Л. Дында, на акупіраваную гітлераўцамі тэрыторыю Беларусі. Па-другое, звесткі Дынды не проста памаглі «змяніць месца дыслакацыі», а ўнікнуць падрыхтаванай ворагам пасткі.

Заўважым таксама, што П. П. Качуеўскі, насуперак сцвярджанню даведніка, на чале з атрадам «Другія» не быў на тэрыторыі Чарнігаўскай вобласці, не граміў Васілеўцкую турму і не захопліваў там надзіва вялізныя для турмы трафеі: 5 станковых і 4 ручных кулямёты, 1 мінамёт, 140 вінтовак, рацыю, боепрыпасы. Не турма, а цэлы арсенал зброі!

Асаблівую горыч выклікаюць недарэчныя домыслы і агрэхі ў артыкулах пра легендарных герояў далёкіх і нядаўніх часоў.

У артыкуле пра палкаводца грамадзянскай вайны (дарэчы, слова грамадзянская вайна ў даведніку пішацца чамусьці з вялікай літары) чытаем: Чапаеў «пахаваны каля г. Лбішчанск (цяпер г. Чапаеў) Уральскай вобл.».

Але ж усім вядома, што магілы Васіля Іванавіча няма. З кіно, кніг нам урэзалася ў памяць тая трагічная вераснёўская раніца 1919 года, калі чапаеўцы на чале са сваім камандзірам мужна, да апошняга патрона змагаліся з ворагам. Помнім, як паранены ў руку Чапаеў з дапамогай паручэнца Пятра Ісаева спусціўся да ракі. Паводле ўспамінаў чапаеўцаў і белаказакаў, ён даплыў да сярэдзіны ракі, а там — ці то не стала сілы, ці то дастала варожая куля, — Чапаеў патануў у хвалях Урала.

Казакі старанна шукалі цела Чапаева: за ягоную галаву было абяцана шмат золата. Яны сеткамі і невадамі абшарвалі Урал, але пошукі засталіся

медык, а не сацыёлаг. І тут з мяне дрэнны дарадчык».

Не зважаючы на двухсэнсоўнасць, што з'явілася ад пастаўленых побач дзеясловаў «зморшчыўся, крыкнуў», на неабавязковасць пытальніка пасля просьбы «навучыце...», а таксама і на прафесараву інтанацыю, усё ж такі ўдумаемся ў змест ім сказанага: няўжо ён сур'ёзна можа лічыць, што ў падобных выпадках найлепшыя дарадчыкі — сацыёлагі?

У другім месцы псіхіятр-прафесар з пацыентам размаўляе так: «Абследаванне мы, безумоўна, правядзём, возьмем аналізы. Але мне і без таго ясна, што ў вас усе сімптомы маніякальнага захворвання. Адным словам — вы маньяк». І тут не інтанацыя галоўная. Якія аналізы патрэбны пры абследаванні маньяка, мне не змаглі растлумачыць і прафесіяналы.

Ну, апошняе можна спісаць на тое, што сам Клімянкоў называў «характэрнай... легкадумнасцю ў абыходжанні са словам». Як, скажам, зразумець, што 27-гадовая жонка Бельскага называецца «маладжавай жанчынай?» Яна ж проста маладая. Няхай выстаўлюся някемлівым, але мушу прызнацца, што выраз «ВАША МЭТА — ВАША ХВАРОБА» мне і дагэтуль уяўляецца загадкавым.

Хапае ў апавяданні «Сеанс гіпнозу» і другіх, меней загадкавых, ды ўсё роўна непраясненых момантаў: «...заўважыў прафесар, дастаўшы з нагруднай кішэні расчоску і прычэсваючы ёй валасы...», «Колькі ні даказваў ёй, што памыляецца, — бескарысна» (не пра карысць і карыслівасць вядзецца гаворка, а пра вынік); «...два алоўкі ўзрадзілі ў яго галаве ідэю».

Што ні кажыце, а даводзіцца канстатаваць, што аўтар забыўся пра ім жа дакляраванае «неабходнае для творцы адчуванне слова».

Няхай сабе герой у не зусім нармальным стане выказваецца: «Мы так любілі ўяўляць хвіліну, калі здзейсніцца наша мара! Цэлыя вечары гаварылі пра гэта. Ніколі не забуду тыя шчаслівыя імгненні...» Аднак і ў аўтарскай мове, на жаль, сустракаюцца: «бязмежная радасць асвяціла Бельскага», «наступіла няёмкая, змрочная цішыня», «ціха і прывольна было навокал» — менавіта тое, што Клімянкоў некалі азначаў як «хадульныя словы і сказы, штампы».

Мне могуць запярэчыць: «Навошта за дробязі чапляцца?» Сапраўды, замнога ўвагі дробязям. Толькі мушу ў сваё апраўданне сказаць: я паспрабаваў ісці за логікай празаіка ў іпастасі крытыка, арганізаваць своеасаблівую аўтарэцэнзію.

А калі адхіляцца ад яе, нават усведамляючы слушнасць вядомага: «з драбніц складаецца большае», я не лічу правільным ацэньваць па асобных цаглінах альбо прыватных недахопах муроўкі ўсё збудаванне, калі яно такі стаць, прынята ў эксплуатацыю і нават ухвалена. І думаю, што нам (як і некалі Клімянкову-рэцэнзенту) важней звярнуцца да больш істотных параметраў нашай прозы. Калі вартасць кнігі вызначаецца не комплексам крытэрыяў, складзеных па вялікім рахунку, а патрабаваннямі звычайнай філалагічнай пісьменнасці — мы пачынаем гаварыць не пра літаратуру.

Сапраўдная літаратура, і проза асабліва, набывае сілу праз думку, канцэптуальнасць, якая далёка не заўсёды атаясамліваецца з «пастаўленымі праблемамі».

Так, пры наяўнасці спамянёнай «праблемы» і «пэўнай мастацкасці» ў апавяданні «Сеанс гіпнозу» мы не знаходзім жывой, напружанай, творчай думкі. Усё тут раскладваецца, усё запланавана. І калі ў мяне папытаюць, што лепшае мае зборнік, магу назваць «Рацыяналіст», а асабліва «Жабятон». Гэтыя творы маюць ужо своеасаблівую дынаміку мастацкай рэальнасці. Няхай яна ў адным выпадку выглядае чыстай канструкцыяй, а ў другім — кавалкам натуры, але тут і тое, што можа здацца алагізмам, набывае мастацкую логіку.

Дарэчы, празаік І. Клімянкоў па першай кнізе паўстае перад намі як схільны да падзейнасці, калізійнасці, нават— драматургічнасці. Ён звычайна засяроджваецца на адкрытых канфліктах дабра і зла, выводзячы іх на ўзровень так званых калізій. Але, на жаль, у многіх выпадках гэта ўзровень болей пропісна - этычны, чым эстэтычны, таму да мастацкай задачы прычапляецца павярхоўная дыдактычнасць — як у апавяданнях «Жывіца», «Начная сустрэча», «Вяртанне», а таксама (хоць і ў меншай меры) — «Мішка», «Раздарожжа», «Ісціна».

Спрабуючы ўдакладніць, якія яшчэ асаблівасці праявіліся ў аўтара кнігі «Сеанс гіпнозу», можна адзначыць арыентацыю на незвычайнасць пры выбары сітуацый і герояў. Добра гэта ці блага — пакуль адназначна ацаніць немагчыма. Як у класіцы, так і ў літаратурным працэсе апошніх дзесяцігоддзяў існуе багата прыкладаў «за» і «супраць». Зрэшты, у першай кнізе Клімянкова мацнейшае ўражанне пакідаюць не экстрэмальныя падзеі ды «дзівакі» (здаецца, яны загадзя разлічаны на эфект, а таму ўвасабляліся эскізна), а звычайныя згадкі звычайнага былога вяскоўца («Саначкі», «Татка ты мой любы...»).

Чаму? Таму што падзеі і ўдзельнікі гэтых падзей браліся болей з душы, як з «навакольнага жыцця». І не проста апісваліся, а выпісваліся. Акрамя таго, не дзеля павучання, а ў выніку самапазнання. Істотная розніца.

Іван ЧАРОТА.

безвыніковымі. Выбіўшы з Лбішчанска белаказакаў, доўга шукалі цела свайго камандзіра і чапаеўцы. Але ні ў рацэ, ні на беразе не знайшлі. Гэта агульнавядома. У адной з песень пра Чапаева нават спяваецца: «Урал, Урал-река, могила его глубока». Вядома гэта ўсім, акрамя аўтараў і рэдактараў энцыклапедычнага зборніка.

Ёсць у рэцэнзуемай кнізе і артыкул пра кіраўніка сялянскай вайны Емяльяна Пугачова, якога жыццёвыя шляхі-дарогі не раз прыводзілі ў Беларусь. У «Гісторыі Пугачова» А. С. Пушкін пісаў: «...вядома ўжо было, што пасля сваіх уцёкаў хаваўся ён за польскай мяжой у раскольніцкай слабадзе Ветка». Мясцовыя краязнаўцы, штуршком да пошукавай работы якіх паслужылі прыведзеныя словы паэта, гадоў пятнаццаць назад устанавілі, што ўпершыню Е. Пугачоў трапіў у Ветку ў 1764 годзе з воінскім атрадам, каб вывесці адтуль беглых раскольнікаў. Праз восем гадоў будучы сялянскі кіраўнік сам уцёк у Ветку. Пражыўшы некалькі тыдняў у доме раскольніка Сямёна Крылова і заручыўшыся пасведчаннем, што ён з'яўляецца мясцовым жыхаром, Пугачоў на Дабранскім пагранічным фарпосце (цяпер г. Дабранка на мяжы Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей) атрымаў пашпарт і пайшоў да яіцкіх казакаў, каб узначаліць іх паўстанне.

У артыкуле пра Пугачова Ветка ўпамінаецца сярод шэрагу беларускіх гарадоў, вуліцы якіх названы іменем народнага важака, аднак пра знаходжанне Пугачова ў гэтым старадаўнім беларускім горадзе чамусьці не сказана ні слова.

Пасля такіх дзіўных «адкрыццяў» на ніве гісторыі ўжо дробнымі ўспрымаюцца недакладнасці іншага роду. У артыкуле пра братоў Мяховічаў гаворыцца, што Сцяпан «з чэрвеня 1943 у партызанскім атрадзе... У жніўні 1944 змагаўся ў тыле ворага на тэрыторыі Чэхаславакіі...» Але некалькімі радкамі ніжэй сцвярджаецца, што Пётр Мяховіч «з чэрвеня 1943 разам з братам змагаўся ў тыле ворага на тэрыторыі Чэхаславакіі».

Сапраўдны рэбус змяшчаецца ў артыкуле пра актыўных удзельнікаў барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады на Магілёўшчыне Ракушавых. Спачатку гаворыцца, што Ракушаў В. І., яго сын Фёдар загінулі 26.1.1925, а другі сын, Рыгор, —26.12.1925. Але тут жа гаворыцца і другое: «26.12.1925 бандыты ўварваліся ў дом Ракушавых, забілі Вавілу Іванавіча і яго сыноў Фёдара і Рыгора». Калі ж адбылася трагедыя?

Няма, відаць, у рэспубліцы чалавека, які б не ведаў пра 16 дукорскіх партызан, што загінулі ад рук інтэрвентаў. Але і тут рэдакцыя даведніка ўнесла штосьці «новае». «...Ворагам удалося арыштаваць групу партызан і падпольшчыкаў, — сцвярджае даведнік. — 16 з іх загінулі (адсюль 16 дукорскіх партызан): 11 пасля катаванняў расстраляны ва ўрочышчы Пушча... 6 (з 30 асуджаных) памёрлі ў турме». Колькі ж загінула патрыётаў?

Многія старонкі даведніка густа ўсеяны недакладнасцямі ў назве навучальных устаноў, пасад, населеных пунктаў. У артыкулах пра Г. А. Палаўчэню, Н. П. Петрачкова і П. К. Южакова ўказваецца, што яны ў 1936—1941 гады вучыліся на афіцэрскіх курсах. Але такія курсы з'явіліся значна пазней, калі ў Савецкай Арміі былі ўведзены пагоны. У даваенныя гады навучальныя ўстановы Чырвонай Арміі называліся па-рознаму, але слова «афіцэр», якое тады не ўжывалася, у гэтыя назвы не ўваходзіла.

Начальнік курса ваеннага вучылішча памылкова называецца камандзірам курса, памочнік камандзіра ўзвода — намеснікам камандзіра ўзвода, начальнік артылерыі стралковай дывізіі — камандзірам гэтай артылерыі, губернская ЧК «ператворана» ў губернскі ЧК. Разведчыкі перадаюць камандаванню не з в е с т к і пра варожыя гарнізоны, а «м е с ц ы дыслакацыі гарнізонаў, складаў».

Сапраўдны ералаш у даведніку атрымаўся з назвамі музеяў. Музей, прысвечаны К. С. Заслонаву, называецца музеем імя К. С. Заслонава. Музей ў вёсцы Іканы Барысаўскага раёна ў даведніку прыводзіцца некалькі разоў і заўсёды па-рознаму: Дзяржаўны музей народнай славы ў в. Іканы, Іконскі музей народнай славы Барысаўскага р-на, Музей народнай славы ў в. Іканы.

Моўная неахайнасць часам набывае кур'ёзны характар. Генерала В. Заімава, патрыёта і мужнага чалавека, правячая вярхушка царскай Балгарыі звольніла з арміі і кінула ў турму. Даведнік жа бясстрасна канстатуе: «звольнены ў запас і заключаны ў турму».

Вядома, якую важную ролю для разведчыкаў і падпольшчыкаў маюць псеўданімы. І таму зусім да месца ў артыкулах пра С. А. Ваўпшасава, Л. Я. Маневіча прыведзены іх псеўданімы, але псеўданімы К. П. Арлоўскага, А. М. Рабцэвіча, В. З. Каржа чамусьці не названы.

На жаль, пералік недакладнасцей і агрэхаў можна доўжыць. У заключэнне скажам, што Энцыклапедычны даведнік, абцяжараны памылкамі і недакладнасцямі, не стаў Кнігай Памяці. І хоць выдадзены ён даволі салідным і аўтарытэтным выдавецтвам, але ж права на неахайнасць у дачыненні да гісторыі няма ні ў кога.

І. БАРЫСАЎ.

## ВІНШУЕМ!



Споўнілася 60 гадоў пісьменніцы Святлане Курылёвай. Праўленне СП БССР накіравала ёй прывітальны адрас з пажаданнямі добрага здароўя і новых творчых поспехаў.

Спаўняецца 70 гадоў пісьменніку і перакладчыку беларускай літаратуры Георгію Папову. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем новых творчых поспехаў, добрага здароўя.

Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама жадаюць юбілярам усяго найлепшага ў жыцці і творчасці.

## ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# Маладая «Беларусь»

Красавіцкі нумар часопіса «Беларусь» — незвычайны...

Апошнім часам чытач прывык ужо да нястомных пошукаў (часта — удалых) рэдакцыйнага калектыву гэтага выдання. Пошукі гэтыя — разнапланавыя, яны тычацца як зместу, так і формы. Цікавыя спробы — выпуск спецыяльных нумароў. Запомніўся, несумненна, нумар «Беларусі», прысвечаны праблемам захавання экалагічнай раўнавагі ў прыродзе, зберажэння міру і спакою на зямлі. Сёлетні красавіцкі — таксама спецыяльны. Цалкам маладзёжны. Ад першай старонкі да апошняй.

Часопіс ніколі не цураўся маладых. У ім заўсёды было месца для маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў, ён часта прадастаўляў свае старонкі маладым мастакам, частыя былі тут і творчыя партрэты маладых работнікаў пяра, сцэны, пэндзля. Аднак такога букета маладых пад адной вокладкай яшчэ не было. Сама ўжо вокладка тут сведчыць: «Гэты нумар зроблены маладымі, для маладых, пра маладых».

Як ніколі вялікую плошчу займаюць творы паэзіі і прозы. Жаданне прадставіць як мага большую колькасць аўтараў — апраўданае, хоць, пагадзіцеся, успрыняць зараз вершы дванаццаці маладых паэтаў — не так і проста. Можа, варта было б дзеля якасці адмовіцца ад колькасці? Тым больш, што падборкі няроўныя. Поруч з вершамі, у якіх чуваць голас аўтараў, бачыцца іх індывідуальнасць (Валянціна Аксак, Людміла Рублеўская, Анатоль Сыс, Алесь Аркуш) — зусім першыя спробы пяра (скажам, Юрася Пацюпы). Авансы — няблага, падтрымка — таксама, ды ўсё ж ці не лепш, калі гэта будуць рабіць маладзёжныя выданні?

Чытаецца маладая проза (яна таксама прадстаўлена шчодра). Хораша, цікава ўжо тое, што маладыя празаікі вельмі ж непадобныя між сабой. Андрэй Федарэнка («Забабоны») і Франц Сіўко («Крыўда») ідуць, здаецца, ад прозы традыцыйнай, хоць і досыць смела пашыраюць яе межы. Сяргей Дубавец (апавяданне «Гон») — увесь у пошуку, у эксперыменце. Сяргей Кавалёў («Чатыры гадзіны да вяртання») спрабуе свае сілы ў галіне фантастыкі. Сяргей Тарасаў («Фрэска») заглыбляецца ў гістарычную праблематыку.

Адным словам, маладыя аўтары імкнуцца не паўтараць іншых. І ў гэтым «імкненні маладой прозы да наватарства і арыгінальнасці, — як слушна піша тут жа ў артыкуле «Пра тое, што хвалюе» Галіна Тычко, — не варта бачыць нейкі выклік старэйшаму пакаленню, адмаўленне яго спадчыны і даробку».

Словы гэтыя з поўным правам стасуюцца і да маладой паэзіі. Але наўрад ці можна прыняць сцвярджэнне Г. Тычко, што «маладыя» хочуць ствараць сваю, новую літаратуру. Літаратуру, якая б тэматычна, стылёва, вобразна-выяўленчымі сродкамі рознілася ад літаратуры папярэднікаў». І старэйшыя, вопытныя пісьменнікі, і маладыя жывуць не ў нейкім ізаляваным месцы, а ў савецкім грамадстве і ствараюць яны адну савецкую літаратуру.

Затрымаецца чытацкі позірк на падборцы «Радавыя Мельпамены», у якой выступаюць з міні-інтэрв'ю рэжысёр тэатра імя Янкі Купалы Мікалай Пінігін, купалавец Ігар Дзянісаў, актрыса маладзёжнага тэатра БССР Іна Стругач, галоўны рэжысёр гэтага тэатра Рыгор Баравік, артыст Тэатра-студыі кінаакцёра Юрый Казючыц. Сутыкненні думак, меркаванняў — часам вельмі палярных. Аднак за гэтым — не амбіцыёзнасць прэтэнзій, а шчырая заклапочанасць заўтрашнім днём тэатра, і ў першую чаргу тэатра беларускага. У выступленні І. Дзянісава, магчыма, сёй-той адчуе і рэшткі юначага максімалізму, ды толькі ж сапраўды: «Наш акадэмічны тэатр стаў нейкім запаведным. Там ёсць і добрыя спектаклі, але няма адчування паўнакроўнага жыцця ў калектыве, няма сваёй непаўторнай праграмы, ці што, няма справы, якая б вызначала ўсё астатняе... Тэатр ператварыўся для многіх у падзёншчыну, яны нібыта стаяць убаку ад галоўнага, таму заўчасна пачынаюць стамляцца, патухаюць».

Шкада, што з-за абмежаванасці плошчы мы не змаглі паслухаць маладых пісьменнікаў, мастакоў. Ім таксама было б што сказаць, бо, як сведчаць рэпрадукцыі твораў майстроў пэндзля, змешчаныя ў нумары, у выяўленчае мастацтва ідзе цікавая змена. Прадстаўлены прыхільнікі традыцыйнай манеры Андрэй Богуш, Сяргей Катранкоў і тыя, хто, сцвярджаючы сваё мастакоўскае «я», смела эксперыментуе (Ігар Таўсталуцкі, Тодар Копша, Анатоль Бяляўскі). Атмасфера ж карціны Генадзя Хацкевіча «XX стагоддзе» нават не столькі экспрэсіўная, колькі «агрэсіўная» (гэта ўжо слова з невялікага рэдакцыйнага ўступу да падборкі «Наш вернісаж»).

Розныя і непадобныя між сабой маладыя. З імі можна не пагаджацца, з імі не толькі можна, але і трэба спрачацца, але іх нельга адмаўляць. Пра гэта — артыкул Віктара Шніпа «Хто яны, «нефармалы»?». Праблемы жыцця сённяшняй моладзі закранаюцца і ў развагах Валерыя Лапіна «Дэкларацыя апатыі».

«Візітная картка «Фанаграмы» (пастаянны раздзел часопіса) знаёміць з рок-групай «Бонда».

Штрыхі да творчага партрэта графіка Міхася Будавея, напісаныя Ларысай Салодкінай («Неабходная выпадковасць»), фотарэпартаж Дзмітрыя Лупача «Пуцёўка на Алімпіяду» — пра спартсменку, пераможцу многіх міжнародных спаборніцтваў па мастацкай гімнастыцы Марыну Лобач, гумарыстычныя малюнкі А. Папова і А. Карповіча і іншыя матэрыялы добра дапаўняюць нумар.

Ёсць што чытаць, многае выклікае на роздум. Добрая справа зроблена часопісам. Вось толькі ў адным «накладка» выйшла: не толькі «для маладых» нумар, як сцвярджае рэдакцыя, а для ўсіх, хто бачыць у сённяшняй моладзі дастойную змену.

А. КУНЦЭВІЧ.

Васіль ХОМЧАНКА

ПРОЗА



# МАШТАК

*АПАВЯДАННЕ*

Памяці воіна-інтэрнацыяналіста Уладзіміра ЗАДАРОЖНАГА

МАШТАКОМ яго назвала малая дзяўчынка, што азначае малы конь, конік. А да таго дня ён ніякага імя не меў, называўся проста асёл. Увесь свой век ён вазіў на вынослівай спіне ўсё, што на яго ўзвальвалі, а таксама самога гаспадара і яго дзяцей. Яго, як і ўсіх аслоў, білі, пхалі пад жывот нагамі — гэта калі ён упарціўся. На аслоў часам выпадае такая неразгаданая чалавекам упартасць. Ідзе паслухмяна, пакорліва, а потым стане і — ні з месца, хоць бі, штурхай пад зад, стаіць— і ўсё. У такіх выпадках добры, цярплівы гаспадар даваў аслу крыху пастаяць, як бы ішоў з ім на мір. Дзеці зрушвалі ўпартага асла па-свойму: падносілі да яго пысы жмут травы або кавалак аладкі, і асёл цягнуўся за прынадай, каб ухапіць яе зубамі, і ступаў уперад. Ну, а калі асёл зробіць адзін крок, то потым ужо пойдзе.

Дык вось, гэты самы асёл Маштак састарэў. Усё часцей стамляўся ў дарозе, не раз валіўся на зямлю пад цяжарам паклажы. Гаспадар, зважаючы на старасць, шкадаваў яго, змяншаў паклажу, сам ужо не садзіўся яму на спіну. Урэшце задумаў замяніць яго, старога, на маладога. Для гэтага збіраў грошы.

— Тата,— спытаў малы сын,— а што ты зробіш са старым ішаком, калі купіш маладога?

— Тое, што робяць са старымі ішакамі: здыму шкуру.

— Не трэба,— пашкадаваў сын асла.— Ён жа столькі гадоў нас вазіў.

— Вазіў, пакуль быў малады. А цяпер навошта ён?

Маштак чуў гэту размову бацькі з сынам, але паколькі ён быў асёл, а гаварылі на чалавечай мове, то нічога, вядома ж, не зразумеў, хоць адчуваў, што гавораць пра яго лёс. Ён стаяў тады каля сцяны хлява, жаваў сцёртымі зубамі траву, якую яму сабраў хлопчык, і думаў пра тое, што ён ужо слабы, стары, што ў яго сцёртыя зубы, баляць ногі і спіна, і яму стала горка і сумна. Ён выцягнуў шыю, задзёр уверх галаву і закрычаў па-свойму, па-аслінаму:

— У-аа! У-аа! У-аа!

Людзі не зразумелі, пра што ён крычаў, а аслы на суседніх дварах зразумелі: скардзіўся на сваю долю. Нічога не зробіш, паспачувалі яны яму, і мы ўсе будзем такімі старымі, цярпі.

Была спякота. Сонца смаліла бязлітасна, злівала на зямлю сваю гарачыню, і зямля, якая ўжо забылася, калі апошні раз яе паілі дажджы, смягла, трэскалася, прагла вільгаці, паддавалася ветру, які выдзіраў з яе пыл, гнаў і падымаў угору воблакам. Трава пажоўкла, і Маштак, выпушчаны на пашу, скуб яе, пасохлую, скуб і не наядаўся. Хацелася і піць, язык зашурпацеў, а вакол паблізу — ні кроплі вады. Ды і шукаць яе не пойдзеш — Маштак быў на прывязі.

Аслы — жывёліны цярплівыя, могуць доўга трываць голад, смагу, могуць ісці доўгую дарогу з паклажай на спіне, але ж і ў іх бывае мяжа цярплівасці. Не сцярпеў і Маштак смагі, закрычаў, папрасіў піць.

Крык Маштака пачулі людзі. Ён убачыў іх трох. Гаспадара пазнаў адразу, двое ж яму былі зусім незнаёмыя, іх у сваім кішлаку раней не сустракаў. Гаспадар нёс у вядзерцы ваду, і Маштак, пачуўшы яе пах, рвануўся насустрач, ды не пусціла вяроўка.

— Дурань, навошта кідаешся, вяроўку парвеш,— сказаў яму гаспадар і паставіў пад морду вядзерца з вадой.

Старэйшы з незнаёмых мякка паляпаў Маштака па спіне.

— Зусім стары, сівы. Сваё аджыў. Пусты хурджум хоць утрымае?

— Чаму пусты? — пакрыўдзіўся гаспадар.— Ён і цябе ўтрымае.

— Значыць, добра. Значыць, тады куплю,— сказаў той незнаёмы.

Незнаёмыя былі з выгляду гэткія ж, як і гаспадар, сяляне. Гэтак жа сама і адзеты — белыя шаравары, белыя доўгія кашулі. На галаве старэйшага — чалма, у маладзейшага — нічога. Толькі Маштак нутром сваім адчуў, што не сяляне яны. Хоць і старыя, слязлівыя вочы ў яго, аднак заўважыў іх рукі: яны не былі сялянскімі — грубымі, з мазалямі, сонцам апечаныя, а тонкія, з доўгімі пальцамі. Такія рукі не трымалі ні ручкі сахі, ні матыкі, ні сярпа. Такімі рукамі толькі грошы лічыць. І калі старэйшы паляпаў Маштака па шыі сваёй амаль бязважкай мяккай рукой, яму не спадабалася не гэта ляпанне, а сам чалавек. Маштак пагрозліва тупнуў заднім капытом і аскаліў зубы.

— Ох ты,— адступіў незнаёмы,— ён яшчэ і ўкусіць можа.

Маладзейшы маўчаў, Маштак нават не пачуў, які ў яго голас, і не ведаў, ці можа ён увогуле гаварыць. Ён стаяў, апусціўшы рукі, пахмурны, безуважны да ўсяго.

— Я ўжо старгаваўся на маладога асла,— сказаў гаспадар.— Толькі ў мяне не хапае грошай.

— Мы дадзім табе за яго... Колькі афгані ты просіш?

Гаспадар назваў суму і паказаў на пальцах. Старэйшы згадзіўся адразу, выняў з кішэні штаноў кашалёк, адлічыў некалькі храбусткіх паперак і падаў гаспадару. Гаспадар — бы ў роздуме: браць ці не браць, — пастаяў нейкі момант нерухома, паглядзеў жаласліва на Маштака і толькі тады грошы ўзяў.

Маштак усё зразумеў — яго купілі гэтыя незнаёмыя, і яны цяпер будуць гаспадарамі. Убачыў ён, што гаспадар яго шкадуе, і сам таксама пашкадаваў гаспадара, рыкнуў яму на развітанне два разы.

Новыя гаспадары вялі Маштака спачатку па сцяжынцы, потым па прасёлкавай дарозе. З той дарогі вывелі на вялікую і шумную дарогу, па якой імчаліся машыны, пыхкаючы смярдзючым газам. Старэйшы гаспадар некуды знік, застаўся маладзейшы, маўклівы. Маштаку не спадабаліся ні гаспадар, ні шумная смярдзючая дарога. Ён спыніўся, заўпарціўся, паказваючы ўсім сваім выглядам, што ісці па такой дарозе ён не хоча. Але новы гаспадар не стаў яго чакаць, не стаў і ўгаворваць. Ён так балюча кальнуў нечым вострым Маштака, што той ажно падскочыў і пайшоў далей паслухмяна. Зразумеў Маштак, што гаспадар — чалавек вельмі жорсткі.

Раней Маштак ніколі не быў у горадзе, ведаў дарогу толькі ад свайго кішлака ў суседнія і назад. І горад яго напалохаў сваім шматлюддзем, шумам, такім жа, як і на шашы, бензінавым смуродам. Бачыў і аслоў з паклажамі на спінах, коней у калёсах, але было больш людзей і калясак, якіх яны везлі з грузам. Спалох потым прайшоў, і Маштак прывык да шматлюддзя і да шуму.

Гаспадар завёў Маштака на ціхі завулак, а там — у глухі дворык. Кінуў яму на шыю повад і зайшоў у дом. Маштак задаволіўся гэтым ціхім месцам і чакаў, што яго тут зараз накормяць і напояць. За дарогу ён стаміўся, спацеў, каля вушэй было мокра, таму прылёг і нават задрамаў.

Ляжаць доўга яму не давялося. Выйшаў гаспадар з хурджумам — такія звязаныя дзве сумкі, штурхнуў Маштака нагой пад бок, каб той устаў. Маштак, баючыся, што зноў той балюча таўхане, падхапіўся, стаў смірна. Гаспадар паклаў яму цяжкі хурджум на спіну, замацаваў вяроўкай пад жывот і павёў з дворыка.

У хурджуме ляжала нешта цяжкае і незвычайнае. Незвычайнае таму, што яно, як жывое, падавала голас. Голас, праўда, быў ціхі, нібы стракаценне цыкадкі: цік-цік-цік... Маштаку гэта не спадабалася, ціканне яму здалося страшным. А чаму страшным, не мог даўмецца. Такога грузу на сабе ён за ўсё жыццё не насіў. Гукі ў сумцы чуліся не толькі вушамі, а адчуваліся і ўсім целам. Быр-р-р...

«Цік-цік-цік» — бясконца стракатала на баку. Маштак паспрабаваў вільнуць бокам, каб ціканне спынілася, але яно працягвалася. Ён ведаў па шматгадовым вопыце, што грузы здымаюць са спіны ў канцы шляху, і таму ішоў пакорліва і нават прыбаўляў у хадзе, каб шлях хутчэй скончыўся і нарэшце знялі б са спіны непрыемны цяжар, тады б і скончылася непрыемнае стракатанне.

Ісці доўга не прыйшлося, спыніліся каля высокага дома. Калі б Маштак умеў чытаць, то ён прачытаў бы, што той дом называецца школай, і ў ёй якраз тады ішлі ўрокі. Гаспадар прывязаў Маштака за слуп, каля самай сцяны школы, і пайшоў, таропка азіраючыся назад. І па гэтым палахлівым азіранні Маштак зразумеў, што той больш сюды не вернецца. Але ж чаму тады не зняў са спіны паклажу? Чаму не ўзяў з сабою тое, што так цікае? А яно працягвала цікаць надакучліва, непрыемна, страшна.

У школе празвінеў званок на перапынак. На двор выбеглі вучаніцы. Некалькі дзяўчынак падышлі да Маштака. Адна, відаць, самая добрая, сунула яму ў рот галету. Маштак з'еў яе, паглядзеў з удзячнасцю і просьбай даць яшчэ. Падбегла зусім малая вучаніца, з ходу шмыганула пад жыватом Маштака, засмяялася. І яшчэ падышлі дзяўчынкі, ляпалі яго па шыі, гладзілі, кудлацілі грыву, а тая малая гарэза дык і за хвост пацягнула. А потым усе адышлі ад Маштака, заняліся сваімі гульнямі.

Ішла па той вуліцы міма школы яшчэ адна дзяўчынка. У школе яна не вучылася, бо яшчэ была малая. Яна спынілася каля асла, пагладзіла па галаве і сказала:

— Здароў, Маштак! Ты — малы конь. Зразумеў?

---

Алесь БАРСКІ



# З ЦЫКЛА «ПРЫСУТНАСЦЬ НЕПРЫСУТНАГА»

●

Як расплюскацца мне,
Разліцца з берагоў
І вырвацца з абдымкаў
Клешчаў жорсткіх,
Якімі злы настрой
Маю няволіць кроў
І думкі блытае мне жорстка.
Стаю я над ракой,
Стаю сярод далін,
Заснулі дрэвы,
Дрэмлюць словы,
Скажы мне, сэрца, урэшце:
Як, калі
Узарвешся гімнам каляровым.

●

Твая далікатнасць
З ліпнёвых аблокаў,
З палеткаў пчалой цалаваных.
Ты сталася сёння
Зрэнкай у воку,
Са з'явы далёкай
Непажаданай.
І што б ні сказаў я,
Дык будзе замала.
І што б ні падумаў,
Дык будзе мізэрна;
Я ўдзячны—
Ты цішу нямую забрала,
І кінула ў сэрца
Звінячае зерне.
З яго вырастае шумлівая песня,
Ўзнімаецца звон, адгалоссе,
Я чую, як сёння
Уліваеш прадвесне
У маю восень.

●

Мая маці не піла каньяку,
І ніколі не ела ікры.
Ні разу не ехала ліфтам,
Ніколі не была ў Акадэміі навук,
Не бачыла ювелірнай вітрыны,
Не прачытала ніводнай кнігі,
Не ведала, хто гэта Капернік,
Але для мяне адкрыла сонца.

●

О, гэты смутак мой
Вячэрне-сіні,
Абняўся з захадам
Барвовым.
Апошніх промняў
Залацісты іней
Асеў на елчыныя бровы.
Лугі мае!
Як вас праславіць песняй?
Калі у ёй
Ні колераў, ні пахаў!
І толькі вы
Ніколі мне не цесныя,
І толькі тут
Я спеўным птахам.

●

Быць можа, гэта
Толькі сон,
І каляровы, і трывожны,
І палахлівы, як агонь,
Тут спапяліцца можна.
Хто з полымем
За пан і брат,
Той, як матыль у полі.
О сэрца!
Не крычы ура,
Свабода можа стаць
Няволяй.
Мне б прытуліцца
Да зямлі,
Да сноў яе і кветак,
Прапасць між вербаў і калін
У сінім паху лета.
І толькі там
Заўсёды быць,
Дзе ёсць трывога
І тварэнне,
І днём і ноччу
Часта сніць
Тваю далонь
У сваёй жмені.

●

Адкуль твае цяпло,
Палетак родны?
Якім пяшчотна грэеш
Мне ступені,
Я вечна тваім смакам

 

Асёл матлянуў галавой, згадзіўся з гэтай назвай, прыняў яе. Прымем і мы яе і таксама будзем зваць асла Маштаком, як і называлі дагэтуль.

Шкада, што жывёліны не могуць гаварыць па-нашаму, а то Маштак папрасіў бы дзяўчынку зняць з яго спіны ношу і спыніць ціканне. Замест слоў ён толькі страсянуў спіною.

Дзяўчынка прыклала вуха да сумкі, пачула тое ціканне.

— Цік-цік-цік, — паўтарыла яна ўслед. — У тваім хурджуме што? Гадзіннік?

Маштак не ведаў сам, што ў сумцы, адно ведаў, што яму цяжка трымаць паклажу на спіне і непрыемна чуць тое ціканне. І яшчэ ўсёй сваёй істотай і душой, якая, як сцвярджаюць, ёсць і ў жывёлы, адчуваў, што яго ўсё больш і больш ахоплівае страх, быццам гэта ціканне нешта набліжала страшнае, можа, і смерць. Цік-цік-цік — гэта адлічваліся секунды, можа, яго жыцця, і павінна адбыцца тое, што набліжае ціканне.

— Мяне завуць Нурыя, — сказала дзяўчынка. — А ты — Маштак. Так?— Ёй спадабалася гэта рыфма, і яна падскоквала і паўтарала: — Маштак — так, Маштак — так!

«Не скачы, — прасіў Маштак дзяўчынку вачамі. — Ты добрая, але мне за цябе і за тых дзяўчынак, што на двары, нешта страшна. Ідзі адсюль хутчэй».

Ціканне не спынялася, а нібыта ўзмацнялася. Вядома, калі прыслухоўваешся да непрыемных гукаў, то яны здаюцца мацнейшымі, проста б'юць па вушах. А дзяўчынка Нурыя не разумела мальбы і просьбы Маштака, не ўцякала ад яго, а забаўлялася з ім. І ён, каб прагнаць яе ад сябе, узяў ды лёгка ўкусіў яе за плячо.

— Нядобры Маштак, — пакрыўдзілася яна. — Не буду з табой гуляць, пайду ад цябе.

І яна адышла. А калі адышла, то ўбачыла савецкага лейтэнанта. Ён ішоў па гэтай жа вуліцы міма школы, міма школьнага двара, поўнага дзяцей. Нурыя павіталася з лейтэнантам і, сама не ведаючы чаму, сказала, што ў Маштака ў сумцы нешта цікае.

— Там так: цік-цік-цік. Відаць, вялікі гадзіннік. Вось такі.



Лейтэнант, які, схіліўшыся да дзяўчынкі, з усмешкай слухаў яе шчабятанне, стараючыся зразумець, пра што яна гаворыць, зразумеў. Ён умомант выпраміўся, азірнуўся вакол, сказаў Нуры, каб адбегла далей, сам падбег да асла. Схіліўся над сумкай, пачуў ціканне, паспрабаваў туды заглянуць, але яна была моцна завязана. І са спіны не зняць, пад жывот прывязана. Лейтэнант усё зразумеў. Зразумеў, якая бяда цікае там. Ён закрычаў дзецям, якія, убачыўшы рускага, пачалі сыходзіцца да яго:

— Бяжыце ўсе адсюль! Усе! Там міна! Мі-на! Будзе — бух! — І махаў, махаў рукамі. — Бух! Бух!

Напалоханыя дзеці кінуліся ўцякаць у школу. Лейтэнант ведаў, што выбухавага зараду, які ляжаў у сумках, хопіць, каб разваліць будынак школы ўшчэнт. Ён не ведаў, канечне, колькі засталося таму гадзінніку механізму яшчэ цікаць. Можа, мінута, а можа, і ўсяго некалькі секунд. Нажа ў яго не было, каб разрэзаць тыя сумкі, і тады лейтэнант схапіў Маштака за повад і пацягнуў яго далей ад школы ў глыбіню пустэльнага двара.

Маштак не ўпіраўся. Упершыню ў жыцці ён быў такі незвычайна паслухмяны і стараўся бегчы з усяе сілы, і толькі баяўся, каб старыя ногі не спатыкнуліся і каб не ўпасці.

— Давай, ослік, давай, бяжы! — падахвочваў яго лейтэнант.

Вось ужо і той пустэльны двор, за дваром нейкі абрыў і больш нічога. Лейтэнант спыніўся, кінуў повад на зямлю і хацеў ужо тут на пустцы развязаць сумкі. Аднак Маштак не стаў стаяць, а, падуладны нейкаму свайму нутранаму голасу, пабег далей адзін.

Прабег мала. Апошні раз на спіне яго цікнула, і выбух грымнуў такі моцны, што ў вокнах школы, якія выходзілі на пустку, вылецелі ўсе шыбы.

Лейтэнант, якога адкінула выбуховай хваляй крокаў на дзесяць, убачыў, як Маштак узнёсся высока ўгору і ўжо там рассыпаўся на чырвоныя кавалкі.

«Ай, які малайчына, ослік, як хутка ты бег, стараўся, імчаўся», — паспеў пахваліць Маштака лейтэнант і страціў прытомнасць.

Прагны і галодны,
Ірдзею ў наваколлі
Тваім ценем.
О, колькі ж раз
Чужыя абяцалі,
Дарылі непаўторнасць,
Неўміручасць,
Але ў люстэрку
Нарвы хваляў
Я ўбачыў іхні зман
Фальшывы і балючы.
Ды толькі тут
Тваіх паўтораў непаўторнасць
Ліе сэнс добры
У мае думкі і надзеі
І сэрца дабрыню
Пад свае крылы горне,
Ператварае будзень
У нядзелю.

●

Вось тут часта вера
Мая паміраe
У дасканаласць сваю і чужую.
Звялі лісточкі зялёнага гаю.
Сумую,
Гарую.
Ды, можа, дзесь выпырсне
Веры асколак
І стужка надзеі,
Кахання сеансы.
Народзе мой бедны,
Пусты ты і голы—
Чакай рэнесансаў!

●

Хачу туды,
Дзе ў поўны рост
Таполі у кальчугах,
Дзе алебарда месяца
Вісіць самотна і бяздомна,
Дзе вецер-бюракрат
І хабарнік-хапуга
Хапае ўсё,
Хапае бессаромна.
І зноў над хатаю бандарскаю
Лунаю,
Вось тут трава бадзёрыцца,
А вось тут млее.
Чым растлумачыць,
Мой беластоцкі краю,
Што ў безнадзейнасці тваёй
Мая надзея?

●

Свабода мая,
Што свабода селядцоў у бляшанцы,
Навокал мяне
Такія, як я,— галадранцы.
І перцу даволі,
І солі даволі,
Таму і крычу я:
Свабода і воля!

# ПАЭЗІЯ

**Васіль ЗУЁНАК**



●

Час працуе без чарнавікоў:
Што было—не паправіш, як дзею
на сцэне...
Не вярнуцца ніколі ў дзяцінства ізноў.
Пахаваліся душы за бетонныя сцены—
І не ўмаіш гадоў сухастойны парадак.
А таму, можа, сёння ўсю мудрасць
вякоў,
Спрасаваную ў кнігах таўсценных,
Перацягне адзінае слова спагады
Чалавеку ў бядзе—
адзінока-страшэннай
Між мільярдаў зямлян-землякоў...

## Касмічная вестка

Пройдзе дождж, магчыма навальніца—
Абяцае радыёпрагноз,
А пакуль што—пылам шлях дыміцца,
Ліст пажоўклы падае з бяроз.

Перасмягла майскія прысады
Кожнаю галінкай просяць піць,
І ў смузе густой за даляглядам
Поле абяскрылена ляціць...

Хоць бярыся ды спраўляй малебен,
Каб хмурынкі выпрасіць шматок,—
Толькі хто ў пустым пачуе небе,
Хто падасць вады—хаця б глыток?

Клопаты свае, свае арбіты,
Кожны сам сабе і кум і сват,
Кожны—свет, замкнёны і закрыты,—
Што страшней—хаос ці гэты лад?

Кожны на сваіх рахунках з часам,
Кожны сам сабе і міл і люб,—
Халасцяк Сатурн зганяе масу,
Круціць торсам кольцаў хала-хуп,

Пазірае Марс крывавым вокам,
А Венеры сняцца жаніхі,
Ходзіць ноччу Месяц сонцабокі,
Ды і той—халодны і глухі...

Хто ж табе, Зямля мая, паможа,
Адгукнецца хто?..
І раптам—дождж!..
Травы здрыгануліся трывожна,
Як пабеглі дзеці басанож.

Вецер лісце спешна перакульваў,
Каб ні кроплі птушкам не было...
Біліся дажджыны, нібы кулі.
Як ад весткі злой, трымцела шкло...

Хмары не плылі, не ўдарыў звычна
Гром, што быў за Перуна старэй...
І Чарнобыль весткаю касмічнай
Стаў каля расчыненых дзвярэй...

●

Храмы падаюць не раптоўна,
Не ад выбухаў дынаміту.
Мы найперш учыняем катоўні
Ім—каб сэрцам былі забыты.

Праклінаем, плюём, зневажаем,
Грунт падводзім з вучонаю пыхай,
І вытручваем кропелькі жалю
Мы ў сабе—незваротна, паціху.

І паўзуць забыцця метастазы
Па скляпеннях святынь учарашніх...
Выбух будзе, але не адразу:
Храмы ў душах руйнуюцца нашых.

●

Штодня паміраць на шпагах радкоў
Правінцыяльным акторам
І ўваскрасаць на заборах вякоў
Надпісамі рыфматвораў,
Бяздомна плыць у бяздумны флінт
На трыумфальнай мачце
Ці з перфакарт квантаваць лабірынт,—
Я не змагу... Прабачце...
Не быць і смычком пры лірычнай
струне
І одапісцам сезонным...
Бо зараз не сэрца ў грудзях у мяне —
Чарнобыля зона.

## Гульня ў рыфму на лекцыі «Як зближаюцца мовы»

*Леаніду ДАЙНЕКУ*

Каб рыфмай спляжыць слова «снайпер»
І сэнс каб быў, а не мура,
Адстукаў гном: «на тэлетайпе»—
А выйшла з-пад твайго пяра.

За гэтай спрэчкаю няхітрай—
Калі дакладчык абнудзеў—
Скакалі слоў замежных цітры,
А я свайго, свайго хацеў.

Ці добрай ласкаю прывесці,
Ці прыштурхаць яго ў каршэнь,
Але такое, каб патрэсці
Тваю шыкоўную кішэнь!

Пацеў да сёмай перагрузкі,
Цягнуў лексічнае цягло,
А слова «снайпер» з беларускім
Гаворку зладзіць не магло.

За рыфму я плаціў панура,
Нікчэмнасць лаячы сваю:
Відаць, парнаскай фізкультуры
Не шмат увагі надаю...

Што ж, паднатужымся памалу,
Зговарым слова на хаўрус.
...Стаяць. Апушчаны забралы.
Наўпроць чужынца беларус.

## Рэха зваленага дрэва

На золку шэрым
Конік бег—
Яшчэ й дугі не відно.
На золку гулкім
Валілася ў снег
На хату будучую
Бервяно.

Туды,
Дзе барвяна,
Праз ночы дно
Бруіўся
Прамень з падзямелля
Крамяны,
Кацілася кругла
Вянца звяно—
«Бер-вя-но»...—
Мяняючы тон драўляны
На рэха віны—
«...вя-но...»

Пасля і «я-но...»
Зламалася—«но-о...»—
Нібы пугаўё ў мароз.
І толькі «о-о»,
Як іней з бяроз,
Бязгучна
вецер
абтрос...

●

Мы песні ў курганах пазакапалі,
Мы апусцілі іх на дно азёр.
І толькі раз у год—перад Купаллем—
Яны выходзяць—узляцець да зор.
Пытаюцца: «Аднойчы вы ўзнялі нас,—
Нашто ж цяпер хаваеце красу?..»
...Заслухаўшыся песень салаўіных,
Сліжы-смаўжы спадаюць у расу...

## Азімут

А ўсё-ткі добра: знаеш, дзе свае,
І сам ратунак
голас падае,
Калі праз цёмную аблогу і слату
Нясецца ўслед:
— Ату яго, ату!..

●

З глыбінь сусвету да мяне
Прыходзіць гэта слова,
Дзе ўсё былое прамільгне
Як сутнасці аснова,
Дзе ўсё, што будзе праз вякі,
Перад вачыма стане,
І незнаёмы дзень з рукі
Ўзлятае як пытанне...
Усё зліецца ў слове тым,
І хто мяне ўратуе
Ад несмяротнай нематы,
Як бачу зорку тую?
Я ўсім гатоў ахвяраваць,
У вечнасці пытаю:
Як слова тое мне назваць?—
Адзін сусвет і знае...

## Надпіс на календары 1988 года

Хай будзе высакосны
Не косны і не посны,
Для праўды—бацька хросны,
Не ўскосны, не адносны—
Галосны, ды не злосны.
Хай будзе ён укосны,
Хай будзе хлебаносны,
І росны, і не млосны,—
Высокі высакосны!

●

Як стог атавы, летні дзень завершан,
Антонаўкай хрумсціць асенні лёд,
І крык гусей—як замаразак першы:
Гарласты і бадзёры,—
У палёт!



 

КІНО

# Тэма... Праблема... Схема

## ДАКУМЕНТАЛЬНЫ ЭКРАН XVI АГЛЯДУ-КОНКУРСУ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМА»

Менавіта беларуская кінадакументалістыка дэманструе сёння, як складана вызваліць факт ад шалупіння канфармізму і гульні ў верагоднасць. Згодна «традыцыі», якая замацавалася ў канцы 60-х гадоў, нашы дакументалісты пачалі занатоўваць толькі святы, перадавікоў вытворчасці і кінаапавяданні «пра вайну і рэвалюцыю»... Галоўнай зрабілася тэма.

Пішу пра гэта з горыччу. Калі пасля вядомых партыйных рашэнняў мы захацелі пабачыць новае дакументальнае кіно, дык вырвацца з палону «правільных» уяўленняў пра яго аказалася не так проста. Супярэчлівасць паміж неабходнасцю пераадолення застою і скаванасцю мастакоўскага мыслення моцная і цяпер. Прынамсі, дакументальнае кіно дакладна адбівае атмасферу, у якой ствараецца...

Сёння можна не толькі расказаць пра пакуты мінскіх вынаходнікаў, але і паказаць чыноўніка, з нядобрай «ласкі» якога тыя не могуць атрымаць сумленна заробленую прэмію. Можна абвясціць і давесці, што праект Даўгаўпілскай ГЭС аказаўся, мякка кажучы, непрафесійным, у зямлю закапаны мільёны («Кантакт» і «Урокі» М. Жданоўскага). Можна прайсціся па гарадскім парку летнім надвячоркам і паздымаць немаладых людзей, што пад баян і гармонік скачуць старасвецкія полькі і кадрылі, а паралельна зманціраваць кадры з пакінутымі сялянскімі хатамі—«гібее вёска»... А можна падзяжурыць з камерай каля чэкавага магазіна і прасачыць шлях асобных пакупнікоў — аж да аддзялення міліцыі («Сталічныя правінцыялы» і «Ивушка плакучая» С. Гайдука). І ніхто не запярэчыць, што тэмы гэтых стужак — не актуальныя, састарэлыя. Але навошта дакументальнае кіноператвараць у падабенства тэлеперадачы са «свабодным мікрафонам» ці «прамым» эфірам? Навошта нам столькі «тэматычных водгукаў на злобу дня»?

Пазіцыя аўтара. Асоба аўтара. На іх беларускі дакументальны экран пакуль што не багаты. Ёсць рэдкія выключэнні, пра іх гаворка пойдзе ніжэй, але пакуль адзначу, што амаль усе дванаццаць дакументальных стужак конкурснай праграмы порстка «адкрывалі тэмы», даўно адкрытыя і адпрацаваныя друкам. У «Ивушке плакучей», зробленай на манер газетнага фельетона (з каляровымі ілюстрацыямі), ёсць эпізод, сацыяльная значнасць якога знарок апускаецца, застаецца па-за кадрам. Перад судом — хлопец, які з-за чэкаў забіў чалавека. Мараль з паказанага вынікае простая: вось куды вядзе пагоня за «прыгожым жыццём». Але за плячыма гэтага хлопца — служба ў Афганістане, і забіў ён таму, што помсціў (ні пра адну з гэтых акалічнасцей фільм не згадвае). І прычына для забойства куды больш глыбокая і складаная за «набыццё чэкаў»... Вось яна, нагода для аўтарскіх разваг, даследаванняў: што фарміруе ў чалавеку сацыяльны эгацэнтрызм, як адбываецца знішчэнне маральных каштоўнасцей, чаму змаганне за справядлівасць прымае форму сацыяльную? Але на экране — работнікі «Ивушки» (апранутыя, дарэчы, адпаведна таварнаму асартыменту свайго магазіна) скардзяцца на несумленнасць уладальнікаў чэкаў, і ў іх словах гучыць помслівае задавальненне: дабраліся, урэшце, і да вас, даражэнькія...

Але не будзем дадумваць тое, што фільм «меў на ўвазе» і пра што адкрыта не гаварыў. У «Сталічных правінцыялах» справа куды прасцей: вёска губляе сябе, горад жа для былога вяскоўца так і не робіцца родным. Праўда, пры гэтым катэгорыі «сталічнасці» і «правінцыялізму» зусім адарваны ад духоўнага вопыту людзей, чые аблічча мы бачым на экране.

Канцэптуальнасць аўтарскага погляду заўсёды прапануе новае ў звыклым, незвычайнае ў звычайным,— гэта, пэўна, ужо аксіёма. У вытанчаным фільме А. Карпава «Вуснамі дзіцяці» ёсць эпізоды, якія маглі б павярнуць фільм у сапраўды арыгінальнае рэчышча. Дзеці пішуць ліст прэзідэнту ЗША, і камера занатоўвае... гульню, «прысвечаную» гэтай падзеі: вось дзятва кідаецца на падлогу пад фанаграму пікіруючага бамбардзіроўшчыка, вось уманціраваны кадр з вайсковай тэхнікай... «Вы пытаецеся, ці баюся я атамнай бомбы?» — быццам перапытвае дзяўчынка рэжысёра і імгненна, ахвотна сачыняе расказ пра свае жудасныя «атамныя сны». Услед за ёй шасцігадовы хлопчык таксама натуральна капіруе ці то ўласнага тату, ці то тэлевізійнага палітычнага аглядальніка: упэўнена разважае «пра палітыку», параўноўвае «іх» і «нас». Вось яны, першыя парасткі — вынікі памылак і прасталінейнасці ў палітычнай прапагандзе. Фільм мог бы зрабіцца сатыраю на іх. Але не зрабіўся...

Аднастайнасць стылявога вырашэння, несумненна, ідзе ад так званага «што бачу, тое і здымаю», а ўжо вы, гледачы, разбірайцеся і аналізуйце самі... Але ж менавіта кінапубліцыстыка абавязана дакладна фармуляваць свае «за» і «супраць», даваць зразумець, на якім «свеце» знаходзіцца аўтар стужкі і якой пазіцыі ён трымаецца... Нездарма з усіх фільмаў конкурснай праграмы журы вылучыла «Наказ» Ю. Лысятава, аддаўшы яму адзін з галоўных прызоў — за рэжысуру.

З «Наказам» шырокі глядач ужо знаёмы. У дзень адкрыцця IV Усесаюзнага з'езда калгаснікаў фільм паказвалі па ЦТ. Вядома, у ім не абышлося без мастацкіх пралікаў, але галоўная яго каштоўнасць, на мой погляд,—у імкненні асэнсаваць, зразумець, як чалавек пазбываецца ўласнай годнасці і прызвычайваецца да становішча «вінціка вялікай дзяржаўнай машыны». Доўгія гады мы жылі са святым перакананнем, што «просты чалавек» маральны сваёй «прастатой». А чым яна абарочваецца цяпер? Пра гэта — карціна Ю. Лысятава, што здымалася ў Расонскім раёне.

Мэтай фільма было расказаць, як працуюць мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, але, так бы мовіць, звышзадача мелася зусім іншая: давесці, што дэмакратыя не ажыццявіцца, калі ў чалавечай свядомасці суіснуюць дзве маралі. Адна — нармальная, чалавечая, калі чалавек цвяроза аналізуе сваё жыццё, другая — афіцыйная, для начальства, калі той самы чалавек не можа на сходзе прагаласаваць за старшыню калгаса, бо старшыняў гэтых мянялася безліч, а толку... Што трэба мяняць у чалавечай свядомасці? Пра гэта «Наказ» распавядае сумленна і пераканаўча.

Побач з «Наказам» я паставіла б фільм «Грэх» дэбютанта У. Дашука.

Малады чалавек Артур выкладае з экрана вядомыя яму спосабы здабывання грошай (як чалавек, выхаваны «правільна», ён не прымае крадзяжу, рабавання альбо нялюбай працы). Самым найлепшым спосабам ён лічыць здабыванне культавых і вайсковых знакаў са... старых магіл. У адкрытым інтэрв'ю Артур падрабязна расказвае, як і што ён капае, здымае, адкрывае, складае (чалавечыя косткі — у тым выглядзе, у якім іх знайшоў)... Ва ўсіх ягоных паводзінах адчуваецца поза, імкненне нешта некаму давесці. Праз дыялог Артура з рэжысёрам да нас паступова даходзіць, што гэтага ўпэўненага «капальшчыка» кінула маці (яму было шэсць гадоў), бацькі хлопец не ведаў, старыя бабуля з дзядулем забралі яго з інтэрната... Мо такім спосабам «здабывання грошай» ён рахуецца з грамадствам за свае беды?

Цяпер у біяграфіі хлопца яшчэ і гэты фільм. Вось у заключных кадрах Артур прымае прысягу, але працягвае трымацца кандзібоберам: на пытанне рэжысёра, як быць з адзнятым матэрыялам, адказвае, што ад сваіх слоў і ўчынкаў не адмаўляецца.

Нялёгкі груз узваліў на свае плечы малады рэжысёр У. Дашук: адказнасць за ўчынкі і перакананні свайго героя. Ім бы разабрацца - паразумецца, але рэжысёр «у самы адказны момант» пакідае свайго апанента — на мосце, пад якім віруе чорная вада з крыгамі...

На маю думку, фільм вымагае працягу. Неабавязкова — «пра Артура», але — абавязкова пра ягонае пакаленне.

...А вось здымае «цвёрдай рукою» рэжысёр няшчасную маці на магіле васьмігадовага сына: хлопчык падарваўся на старой міне, якая даляжала да нашых дзён на школьнай клумбе. І не толькі здымае, але і прымушае расказаць, як знайшла гаротніца шапачку і чаравічак... Дзеля чаго? А каб зрабіць інструктыўны заказны фільм «Асцярожна, іржавая смерць». Мэта фільма — засцерагчы дзятву ад небяспечных знаходак, але сродкі для дасягнення... але ўвасабленне... Карціна, верагодней за ўсё, «ляжа на паліцу», бо для заказчыка яна — чарговае мерапрыемства, і яно праведзена. А я ўсё думаю пра тую маці...

Дзе яны, сапраўдныя публіцыстычныя работы? Сучасныя фільмы? Як тут не згадаць пра стужку, што не была ўключана ў праграму агляду-конкурсу— «Хатынь, 5 км» рэжысёра І. Калоўскага. Яна праляжала на паліцы дваццаць гадоў, але шчасліва перажыла свой час. Чаго дваццаць гадоў назад напалохаліся чыноўнікі, калі забаранілі яе? Няўжо... сваіх уласных перажыванняў? І забаранілі... перажываць, спачуваць, міласэрнічаць цэлым пакаленням: маўляў, навошта дзяцей палохаць? Няхай яны гэтага не ведаюць, дастаткова таго, што мы ведаем... «Параднае» пакланенне — кветкі на мармуры — можна дазволіць. Дарэчы, адзін з фільмаў, знятых у той час, так і называўся —«Помнікі не маўчаць». Але ж помнікі самі па сабе не плачуць і не спачуваюць. Плакаць — гэтаму, як ні дзіўна, трэба вучыцца...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**



# «Хатынь, 5 км»

**Гэты фільм, паказаны па-за конкурсам сёлетніх кінаагледзін «Беларусьфільма», зрабіўся ягоным своеасаблівым адкрыццём. Спецыяльны дыплом і прыз журы за грамадзянскую смеласць у раскрыцці тэмы Хатыні ў беларускім дакументальным кіно прысуджаны рэжысёру Ігару Калоўскаму. Ён адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.**

**— Ігар Васільевіч, як і калі з'явілася задума фільма?**

— У 1968 годзе на студыю прыйшоў Алесь Адамовіч і замест сцэнарыя прынёс некалькі паперак, дзе ў слупок былі надрукаваны назвы спаленых беларускіх вёсак. Вёскі гэтыя доўга заставаліся пусткамі, параслі дзядоўнікам. Сваякі ці былыя гаспадары (хто застаўся жывы) на месцы спаленых хат стаўлялі крыж з ручніком. Як помнік... Самым цяжкім было ўзяць кінакамеру і здымаць. Памятаю першае ўражанне ад здымак: вёска Пераходы, 1800 двароў і — вуліца з адных крыжоў...

**— Адразу заўважаеш: карціна не аддала звыклай даніны часу — няма параду ветэранаў, уручэння медалёў, піянераў на варце каля Вечнага агню. Не сакрэт, што такі «цягнічок» мог бы ўсю стужку «вывезці»...**

— Рэчаіснасць «падкідала» іншае. Какетлівых паненак — яны абдымалі за ногі скульптуру Старога з хлопчыкам на руках і фатаграфаваліся ў «прыгожых» позах... Людзей, якім цудам пашанцавала застацца ў жывых... Мы не пісалі ім тэкстаў, каб «да шырокага гледача» іх расказы дайшлі ў абавязковай тады літаратурнай апрацоўцы. Людзі, сапраўды, даверылі нам свой боль.

**— Як паставіліся да фільма вашы калегі?**

— «Хатынь»... не дапасавалася да параду на студыі. Творчыя супрацоўнікі, яны ж — адміністратары, яны ж — кіраўнікі з «вырашальным голасам» адразу падзяліліся на два лагеры, меркаванні якіх былі рашуча супрацьлеглымі. Адамовіч запрасіў на прагляд шмат каго з Саюза пісьменнікаў рэспублікі — ад маладога тады Някляева да Мележа; пісьменнікі стужку прынялі — амаль аднагалосна.

**— Значыць, выступілі супраць фільма і забаранілі яго чыноўнікі ад мастацтва?**

— Чыноўнікі таксама глядзелі ўзрушана. Але як толькі ў зале запальвалася святло, іх душы быццам адляталі ад пінжакоў з узнагародамі. З баявымі, дарэчы, таксама...

**— Ці маглі б вы назваць прозвішчы тых, хто не пусціў фільм у жыццё?**

— Цяжка... Гэта, як ні дзіўна, Іосіф Вейняровіч (наш вядомы кінадакументаліст), якога падтрымалі тагачасныя сакратар ЦК КПБ Пілатовіч і загадчык аддзела культуры ЦК Марцэлеў. У хуткім часе мяне звольнілі з працы, і амаль пятнаццаць гадоў я быў вымушаны працаваць за межамі рэспублікі. Перанёс інфаркт...

**— Якія канкрэтныя прэтэнзіі выказваліся да карціны?**

— О, калі б прэтэнзіі выказваліся канкрэтныя, іх можна было б аспрэчваць, даводзіць сваю рацыю. Фільм проста «не прынялі». Нельга ж усур'ёз паставіцца да заўваг, накшталт: чаму ў вас людзі ў ватоўках? Чаму ў інваліда трасуцца рукі? Чаму так многа мыліц і інвалідных калясак? Чаму салдат гуляе з малым пад час мітынгу былых партызан? Чаму дзеці гуляюць на могілках? Апошняе пытанне стала ледзь не прынцыповым, і я доўга апраўдваўся, што Хатынь — не могілкі, а мемарыял, што дзеці не гуляюць, а ловяць мячык, а не плачуць таму, што ім па чатыры гады і плакаць каля помнікаў яны не будуць... Дзяўчынкі з мячыкам з'явіліся ў карціне пасля расказу Янкі Брыля пра тое, як ягоны сябра знайшоў у брацкай магіле сваё дзіця па мячыку... па каляровым мячыку, што купіў малому перад самай вайной...

**— А як вярнулася «Хатынь...»?**

— Я сам быў вельмі здзіўлены, калі копію стужкі «адкрылі» ў Дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў БССР. Гадоў дзесяць назад даведаўся, што мая «Хатынь...» з'ездзіла на конкурс у Аберхаўзен і была нават адзначана дыпломам. Яго прыслалі на студыю на маё імя, але ў адваротным адрасе было пазначана — «ФРГ» і нехта з пільных чыноўнікаў «зрэагаваў»: канверт ускрылі, дыплом схавалі ў сейфе дырэктара кінастудыі. І толькі калі ў ягоным кабінеце рабілі рамонт, калі ўсе лішнія паперы выносілі, мой сябра выпадкова і заўважыў гэты дыплом — у смецці...

**— Калі нам чакаць з'яўлення «Хатыні...» — на вялікіх экранах?**

— Не так даўно знайшоўся негатыў фільма, — ацалеў насуперак загаду «Змыць!». Прыстойныя адбіткі з яго зняць можна. Ну, а камісія па творчых спрэчках пры Саюзе кінематаграфістаў СССР прыняла рашэнне зрабіць гэта як мага хутчэй — праз тры-чатыры месяцы.

**Вось некалькі радкоў яе біяграфіі. Тамара Іванаўна Шымко — заслужаная артыстка БССР (1954 г.), народная артыстка БССР (1963 г.). Узнагароджана ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны». Была дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Гастраліравала ў Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, ГДР, Балгарыі, Італіі, Францыі, Канадзе, Бельгіі, у многіх гарадах нашай краіны. Пра яе пісалі: «Для артысткі тэхнічная дасканаласць — гэта арганічная неабходнасць, толькі шлях да раскрыцця пачуццяў перад аўдыторыяй, але не самамэта яе сустрэч са слухачамі. Шымко імкнецца ўласна, непаўторна «прачытаць» вобраз, увасобіць на сцэне гераінь, узбагаціць іх тымі рысамі, якія блізкія і дарагія самой артыстцы. Яна прымушае верыць у духоўную чысціню людзей, у светласць вялікіх пачуццяў. Таму кожная сустрэча з таленавітай выканаўцай прыносіць радасць слухачам і яе партнёрам па сцэне».**

## МУЗЫКА

# ПРАСТАТА І ПРАЦАВІТАСЦЬ...

**Наша субяседніца — Тамара ШЫМКО**

Ці не выпадала вам некалькімі словамі ахарактарызаваць добра знаёмага чалавека? Відаць, здаралася такое. Няпроста гэта зрабіць. Тым больш, калі чалавек той—вядомая артыстка, якая прайшла ў мастацтве доўгі і яскравы шлях, а цяпер перадае свой вопыт і веды маладому пакаленню.

Прастата і сціпласць... Вось што, бадай, найперш уласціва Тамары Іванаўне Шымко, народнай артыстцы рэспублікі, колішняй салістцы Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, а цяпер старшаму выкладчыку Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага. А яшчэ я думаю пра яе таленавітасць, працаздольнасць, шчырасць, вытрыманасць, чэснасць і прынцыповасць у адносінах да справы і да таварышаў і пра іншыя рысы, характэрныя для лепшых савецкіх артыстаў. Але ж галоўнае — прастата і сціпласць...

Шмат гадоў я ведаю Тамару Іванаўну: слухаў яе ў многіх оперных партыях і канцэртах. І па сённяшні дзень выступаем з ёю на творчых сустрэчах, разам з кампазітарам Г. Вагнерам. А вось пагутарыць як след пра жыццё, пра творчасць усё не даводзілася. Спадзяваўся, што цяпер, калі яна ўжо не спявае ў тэатры, а толькі выкладае ў інстытуце, зрабіць гэта будзе проста. Але толькі ў нядзелю, ды і то пасля таго, як Тамара Іванаўна з'ездзіла да свайго сына Вячаслава, які праходзіць службу ў радах Савецкай Арміі, мы змаглі сустрэцца і спакойна пагутарыць.

Усё ў яе жыцці, лічыць Т. Шымко, атрымлівалася даволі проста.

Нарадзілася ў Мінску. З дзяцінства спявала ў Палацы піянераў. У час вайны эвакуіравалася з сям'ёй у Арэнбург. Вярнулася ў Мінск у 1945 годзе.

**— Ці памятаеце, які быў Мінск раней?**

— Даваенны горад памятаю мала. А пра той Мінск, у які вярнулася ў 45-м, успамінаць цяжка і балюча.

У верасні сорак пятага пачала займацца на падрыхтоўчым аддзяленні спеваў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У тыя пасляваенныя гады ў кансерваторыі было шмат добрых галасоў. Але ніхто з нас «у зорках» не хадзіў. Нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы (адсутнасць вучэбных памяшканняў, пасляваенная беднасць), мы займаліся вельмі старанна і жылі марай пра лепшы час, пра будучыню оперных артыстаў.

**— Прабачце, Тамара Іванаўна, цяпер студэнты жывуць і займаюцца ў непараўнальна лепшых абставінах і таксама марацць пра оперную сцэну, а ўсё ж...**

— Вы хочаце сказаць, што не надта старанна вучацца і мала працуюць? Ёсць і такія — ды ім жа горш... Калі я вучылася ў кансерваторыі, у нас не было опернай студыі (яна з'явілася куды пазней), і таму было цяжэй падрыхтавацць сябе да працы ў тэатры. Але і тады ў нас былі выдатныя выкладчыкі. Маёй галоўнай настаўніцай была Вольга Мікалаеўна Несцярэнка. У свой час яна была салісткай Марыінскай оперы і спявала ўвесь вядучы рэпертуар лірычнага і больш моцнага сапрана: Маргарыту ў «Фаўсце» Ш. Гуно, Наталлю ў «Русалцы» А. Даргамыжскага, Марфу ў «Царскай нявесце» М. Рымскага-Корсакава, Гарыславу ў «Руслане і Людміле» М. Глінкі і іншыя. Нашы галасы аказаліся блізкія па прафесійных якасцях, і таму для мяне былі такія блізкія і зразумелыя ўрокі і патрабаванні маёй настаўніцы.

Не магу не ўспомніць выдатнага канцэртмайстра С. Талкачова, дырыжораў І. Гітгарца і М. Рубінштэйна, рэжысёраў У. Шахрая і Б. Мардзвінава. Гэта дзякуючы ім, іх рабоце са мной, нарэшце, іх веры ў мяне я змагла без аркестравых рэпетыцый выступіць, дэбютаваць на сцэне нашага тэатра ў партыі Маргарыты ў спектаклі «Фауст».

**— Мне даводзілася і чытаць, і нямала чуць пра ваш бліскучы дэбют. А потым вы працавалі ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР 32 гады. І калі ў 1984 годзе развіталіся з опернай сцэнай, зноў выступілі ў партыі Маргарыты. Ужо сам факт, калі выканаўца выбірае для свайго бенефісу такую складаную ў вакальных і сцэнічных адносінах партыю, з якой і пачынала творчы шлях, сведчыць пра вашу сталасць артысткі і спявачкі і, як цяпер кажуць, пра высокія вакальныя кандыцыі. Але чаму вы абралі для апошняга спектакля менавіта партыю Маргарыты? Гэта ваш самы любімы вобраз?**

— Любімы — так. А вось ці самы любімы — не ведаю. Я «ўлюблялася» амаль ва ўсіх сваіх гераінь. Ну як не любіць Іяланту ці Таццяну ў операх П. Чайкоўскага «Іяланта» і «Яўгеній Анегін», Дэздэмону ў «Атэла» Д. Вердзі ці Манон у аднайменнай оперы Ж. Маснэ, Электру ў «Арэстэі» С. Танеева ці Віялету ў «Травіяце» Д. Вердзі!

**— Тамара Іванаўна, я ведаю, што вы ўвасобілі на сцэне 32 оперныя партыі. Мяне як прафесіянала вось што цікавіць: пачыналі вы свае выступленні як лірычнае сапрана. З цягам часу ў большасці спевакоў галасы, як мы кажам, ідуць «уніз», робяцца больш «цяжкімі», не такімі рухлівымі, тэхнічнымі. У вас жа атрымалася наадварот: у 1969 годзе вы ўпершыню выканалі адну з найскладаных партый лірыка-каларатурнага сапрана — Віялету. А потым — амаль супрацьлеглую партыю: Джаконду ў аднайменнай оперы А. Панкіелі, якую спяваюць у асноўным уладальніцы драматычнага сапрана. Як вам гэта ўдавалася?**

— Лічу, што гэта было магчыма дзякуючы добрай вакальнай школе, якую мне дала Вольга Мікалаеўна Несцярэнка. Яшчэ таму, што мне пашанцавала з працай у тэатры. Мяне не «эксплуатавалі», як гэта часта сёння робяць з маладымі артыстамі ў многіх тэатрах, у тым ліку і ў нашым. У большасці выпадкаў «эксплуатацыя» вядзе да пеўчай недаўгавечнасці, а то і проста да трагедыі — спявак страчвае голас. У тыя пасляваенныя гады тэатр памалу набываў рэпертуар. Разам з тэатрам «расла» і я, так што ўводаў у спектаклі ў мяне амаль не было. А ўводы ж часцяком бываюць скараспелыя, што таксама адмоўна ўплывае на голас, прыводзіць да недабраякаснай падрыхтоўкі партыі і тым больш неахайнага сцэнічнага ўвасаблення вобраза. Калі ж працуеш над партыяй у планавым спектаклі, усё робіцца больш дыхтоўна, без штурмаўшчыны і паспешлівасці. Можна ўсё спакойна «ўпець», зжыцца з вобразам, асабліва, калі бываеш першым выканаўцам партыі.

**— Першым выканаўцам — вы маеце на ўвазе партыі ў операх беларускіх кампазітараў?**

— Так. З шасці партый, выкананых мной у операх беларускіх кампазітараў, пяць былі ў прэм'ерных пастаноўках. Гэта Ядвіга ў «Ясным світанні» А. Туранкова, Юленька ў «Надзеждзе Дуравай» А. Багатырова, Тася ў «Андрэі Касцені» М. Аладава, Святлана ў «Калючай ружы» Ю. Семянякі і Клава ў оперы Г. Вагнера «Сцяжынаю жыцця». Такія работы, калі ні ў кога «не падгледзіш», «не падслухаеш», — цікавыя асабліва!

**— А ваша думка наконт абмену вопытам і працягу вучобы непасрэдна ў тэатры?**

— Безумоўна, мы вучымся ў дырыжораў і рэжысёраў, у сваіх калег па сцэне, у салістаў-гастралёраў... Пераканалася ў гэтым на ўласным вопыце. У самым пачатку творчага жыцця мне пашчасціла выступаць у спектаклях з народным артыстам СССР Іванам Сямёнавічам Казлоўскім, які прыязджаў у Мінск і спяваў на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР партыю Фаўста. Потым маімі партнёрамі па спектаклях былі знакамітыя савецкія і замежныя выканаўцы: Георг Отс, Аляксей Крыўчэня, Аляксандр Огніўцаў, Рымантас Сіпарыс, амерыканскі спявак Джэром Хайнс і іншыя. Лічу, што вялікай школай для ўсіх артыстаў з'яўляюцца і іх уласныя гастролі. Апошнім часам, як мне здаецца, гастроляў у салістаў беларускай оперы праходзіць намнога менш, асабліва за мяжу. Мне ж давялося выступаць у оперных тэатрах Румыніі, Польшчы, ГДР. І, безумоўна, усюды я вучылася.

**— А што вы скажаце пра оперныя пастаноўкі сённяшняга нашага тэатра?**

— Не ўсё мне даспадобы, не ўсё па душы. Асабліва, што датычыць пастановак класічных твораў. Можа, я ўжо гэтак выхавана, але мне хацелася б, каб класіку ставілі ў класічных традыцыях. Што маю на ўвазе? Вось, напрыклад, той жа «Фаўст» Ш. Гуно. У нашым тэатры опера ішла ў адной пастаноўцы больш за 20 гадоў і заўсёды добра прымалася слухачамі. Вы ведаеце, у оперы ёсць «сцэна ў садзе», ці «замаўленне кветак». А ў цяперашняй мінскай пастаноўцы на сцэне няма ні саду, ні кветак. Вось я і кажу: у новых сучасных творах, можа, такія ўмоўнасці і дапушчальныя, а ў класіцы — не.

**— Тамара Іванаўна, як вы ставіцеся да эксперыменту ў тэатры?**

— Я не ведаю добра, што гэта такое. Мне здаецца, гэтага пакуль яшчэ не ўяўляюць сабе многія. Але скажу вось што: тэатру, каб быць патрэбным гледачам, каб адпавядаць узроўню прафесійных запатрабаванняў часу, трэба мець належным чынам падрыхтаваную трупу і працаваць, працаваць...

**Тамара Іванаўна Шымко робіць менавіта гэтак — працуе кожны дзень і не толькі як настаўніца, выкладчык, але і як выканаўца. Яна рыхтуе камерны рэпертуар, з якім выступае на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі, у педінстытуце і г. д. Неўзабаве мы зноў пачуем спявачку ў зусім новай канцэртнай праграме...**

**Вёў гутарку Леанід ІВАШКОЎ.**

## З ПОШТЫ АДДЗЕЛА ТЭАТРА, КІНО І ТЭЛЕБАЧАННЯ

# Ці адбылося выкрыццё?

**Гаворка ў маім лісце пойдзе пра публікацыю «Хто каго выкрывае?», змешчаную ў «ЛіМе» 12 лютага пад рубрыкай «Чытач дзеліцца ўражаннем». Аўтар, малады кінакрытык, студэнт-завочнік ВГІКа А. Сільвановіч меў на мэце давесці, што кніга В. Нячай «Экран выкрывае. Прагрэсіўнае замежнае кіно» вельмі і вельмі далёкая ад дасканаласці. Я не збіраюся пісаць грунтоўную рэцэнзію на гэтую кнігу, але заўважу наступнае.**

**Твораў замежнага кінамастацтва апошнім часам адчувальна пабольшала ў савецкім кінапракаце. Не сакрэт, што сярод замежнай кінапрадукцыі можна пабачыць шмат такога, што мастацтвам ніяк не назавеш; менавіта яно часцяком трапляе ў сістэму відэаканалаў. Як ніколі ўзрастае сёння патрэба ў ацэнцы і аналізе падобных з'яў.**

**В. Нячай — адзіны ў рэспубліцы кіназнаўца, які займаецца замежным кінематографам. Вядомыя яе кнігі «Бляск і жабрацтва «масавай культуры», «Пра густы спрачаюцца. Замежныя фільмы на нашых экранах». Галоўная іх функцыя — інфармацыйна - асветніцкая. На іх старонках чытач знаёміцца з шырокай панарамай сучаснага замежнага кіно, з яго тэндэнцыямі і напрамкамі. В. Нячай не дае ёмістага мастацтвазнаўчага аналізу твораў кіно. Яе мэта — паказаць замежны кінематограф у кантэксце грамадска-палітычнай сітуацыі, прапанаваць увазе чытачоў-гледачоў сістэматызаваную інфармацыю па замежным кіно. Відавочна, даючы ацэнку гэтым кнігам, трэба зважаць на тое, што аўтар меў прапанаваць. Прэтэнзіі, выкладзеныя А. Сільвановічам, як мне падаецца, крыху не па адрасе.**

**Я паважаю імкненне студэнта-завочніка «да ўсебаковага авалодання сваёй прафесіяй крытыка-кіназнаўцы», але здзіўляюся з таго, што ён не ведае знакамітай ленінскай думкі пра існаванне дзвюх культур у буржуазным грамадстве. Менавіта гэтая думка і зрабілася метадалагічнай асновай кнігі В. Нячай. Яна зусім не падзяляла свет на «сваіх і чужых» паводле прынцыпу «хто не з намі, той супраць нас». У мастацтве, як і ў жыцці, усё складана. Зразумела, што ў творчасці буйнога мастака могуць надарацца ўздымы і спады, што фільм прагрэсіўнага рэжысёра можа мець супярэчлівыя думкі, а фільмы, што належаць да масавай культуры, могуць быць зроблены на вельмі прыстойным прафесійным узроўні. В. Нячай гэта агаворвае. Таму папрокі аўтара «Хто каго выкрывае?» у тым, што ў кнізе «мастаку не пакідаецца права на сумненне, на пошук, на змену погляду і нават пераходу на іншую ідэалагічную платформу» ўспрымаюцца недарэчна.**

**Дапускаючы неадназначнасць, якая існуе ў сучасным замежным кінамастацтве, неабходна зважаць на дакладнае размежаванне, пра якое В. Нячай заяўляе літаральна на першай старонцы кнігі: «Современный киноэкран мира представляет собой поле острой идеологической борьбы. С одной стороны, здесь буржуазная «массовая культура» с ее стереотипами, мифами, идолами и суперменами... С другой — прогрессивное киноискусство разных народов, стран...» (с. 3). Што тут выклікае сумненне? Цікава было б даведацца, да якога напрамку малады кінакрытык аднясе такія фільмы, як «Рэмба», «Брудны Гары» Зігеля, «Мадэмуазель» Рычардсана ці «Дылінджэр» знакамітага Міліўса, якія адкрыта прапагандуюць гвалт і прыгнёт, і, адпаведна, належаць да пэўнага віду культуры? А можа, як прапануе А. Сільвановіч, тут трэба звяртаць увагу не на палітычную афарбоўку, а толькі на «мастацкасць кінематаграфічнага твора»? Дзіўным мне падаецца і наступны довад: «Твор мастацтва, у тым ліку і кіно, проста не можа з'явіцца як хуткі водгук на падзеі». Чаму ж? Усяк бывае. Да прыкладу, фільмы «З высока ўзнятаю галавою» Карлсана, «Даніэль» Люмета, «Сальвадор» і «Узвод» Стоўна зняты, што называецца, па гарачых слядах, але іх мастацкая значнасць агульнапрызнаная. Але вернемся да «Зорных войнаў», да гэтага чэмпіёна пракату, які выклікаў самыя супярэчлівыя водгукі. Адны сцвярджалі, што гэта — прапаганда мілітарызму, другія бачылі ў фільме антыімперыялістычную скіраванасць, трэція — звычайны дзіцячы комікс. Па-мойму, А. Сільвановіч прытрымліваецца апошняга. В. Нячай піша: «...Стало совершенно очевидно, что это не сказка для детей, а оружие, несущее... идеи войны» (с. 30). А. Сільвановіч называе фільм Лукаса «казкай» і вызначае гэтым не толькі жанр, але і ступень уздзеяння на аўдыторыю. Але стужка зусім не такая бяскрыўдная. Я б дала іншае вызначэнне яе жанру: палітычная прытча.**

**А. Сільвановіч, на маю думку, дзейнічае тым спосабам, калі з кантэксту «дастаюцца» цытаты і тлумачацца паводле пажаданняў таго, хто іх «дастаў». Ён цытуе выказванні В. Нячай пра фільмы «Баль» Сколы і «Замуства Марыі Браўн» Фасбіндэра, але сутнасць ацэнак даследчыцы не тлумачыць. Толькі папрок кідае: «...кнізе ўласціва канспектыўнасць выкладання, адсутнасць глыбокага і разнабаковага аналізу канкрэтных фільмаў...» Але, паўтару, В. Нячай цікавілі не стольні асобныя творы, колькі іх грамадскі рэзананс і ўздзеянне на чалавека, самая грамадска-палітычная сітуацыя, што спрыяе з'яўленню таго ці іншага фільма. Ці можна ў такім разе пагадзіцца, што аўтарка не справілася са сваёй задачай?..**

**Людміла САЯНКОВА,**
**кінакрытык, выкладчык БДУ.**

## *III Усесаюзны фестываль народнай творчасці*

**Культура — духоўны патэнцыял перабудовы. Гэтыя словы набываюць сёння ўсё больш значны сэнс. Невыпадкова ў партыйных дакументах апошняга часу звернута ўвага на пытанні ідэалагічнага забеспячэння перабудовы. Аб праблемах і перспектывах развіцця народнай творчасці ішла гаворка на Усесаюзнай нарадзе, якая адбылася 4—5 красавіка ў Маскве. На ёй, між іншым, адзначалася, што далейшы ўздым народнай творчасці, развіццё і ўзвышэнне ў кожным савецкім чалавеку творчых задаткаў паслужаць выкананню гістарычных рашэнняў XXVII з'езда Камуністычнай партыі, справе перабудовы і абнаўлення ўсіх бакоў жыцця нашага грамадства.**

**Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» мяркуе шырока асвятляць на сваіх старонках ход III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, змяшчаць артыкулы, агляды, рэпартажы, прысвечаныя розным аспектам клубнай і культасветнай работы, дзейнасці разнастайных аматарскіх аб'яднанняў, харавых, танцавальных, тэатральных самадзейных калектываў, развіццю народных промыслаў.**

# НАРАДЖЭННЕ... У ГОД ЮБІЛЕЮ

СЛОНІМ, як вядома,— невялікі раённы горад. Такіх на Беларусі шмат. Але ўсё ж сярод раённых цэнтраў ён займае асаблівае месца, дзякуючы даўняй культурнай традыцыі і яе сённяшняму працягу.

...Пасля вызвалення Заходняй Беларусі і Вялікай Айчыннай вайны ў Слоніме ў 1948 годзе з драмгуртка пры раённым Доме культуры ўзнік аматарскі тэатр. Заснавалі гэты калектыў былы франтавік Аляксандр Бялоў, цяпер заслужаны артыст БССР, які працуе ў Рускім тэатры БССР. Так пачаўся шлях працягам аж у сорак год. Сёлета Слонімскі народны тэатр адзначае сваё саракагоддзе і—другое нараджэнне!

Юбіляру ёсць што згадаць. Тэатр рос і мацнеў з году ў год. У 1959 годзе ён адным з першых у рэспубліцы атрымаў званне народнага (калектывам кіраваў тады заслужаны дзеяч культуры БССР М. Фрыдман).

У 1968 годзе тэатр прыняў яго цяперашні кіраўнік Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч, вопытны рэжысёр, выпускнік Ленінградскага інстытута тэатра, музыкі і кіно. Сам ён родам з Ганцавіцкага раёна, з Палесся. «Пацягнула на родную старонку,—успамінае Варвашэвіч аб сваім рашэнні перайсці на аматарскую сцэну, да гэтага ён працаваў у тэатры горада Калініна,—спадзяваўся, што менавіта на радзіме змагу стварыць тэатр, аб якім марыў».

Людзі накшталт Варвашэвіча, калі трапляюць у школу, — хочуць мець менавіта сваю школу. Калі ў калгас—свой калгас, а калі ў тэатр—менавіта свой тэатр. Іх энергіі хапае на тое, каб згуртаваць вакол сябе людзей, вызначыць мэту і весці калектыў да гэтай мэты. І артысты тэатра падзяляюць планы і ідэі рэжысёра. Кожны год тэатр рыхтуе па некалькі прэм'ер, выязджае на вёску, выступае перад працаўнікамі горада. Ён гастраляваў у Эстоніі, Літве, Туркменіі, амаль кожная яго прэм'ера паказваецца па тэлебачанні.

Поспех тэатра і рэжысёра шмат у чым тлумачыцца рэпертуарам. Варвашэвіч адмовіўся ад п'ес, якія спецыяльна пішуцца для аматарскіх тэатраў. Так на афішы слонімцаў з'явіліся п'есы Астроўскага, Талстога, Горкага, Транёва, Розава, Рошчына. Асабліва вялікі поспех мела нацыянальная класічная і сучасная драматургія. Доўгі час на сцэне жылі пастаноўкі паводле п'ес Галубка, Дуніна-Марцінкевіча, Крапівы, Макаёнка. «Паўлінка» Купалы прайшла больш за сто разоў, і калектыў не забывае аб ёй і сёння. Адна з апошніх работ тэатра—спектакль паводле аповесці Васіля Быкава «Знак бяды».

**Для народнага тэатра мае значэнне не толькі поспех на сцэне, а і атмасфера ў калектыве. Не перабольшваючы можна сказаць, што праз тэатр прайшлі тысячы людзей. Адны займаліся паўгода, другія некалькі год, але тэатр пакінуў след у іх душы. Кацярына Фёдараўна Палішчук прыйшла ў тэатр дзесяцікласніцай, з тае пары мінула трыццаць год, і сёння яна, былы дырэктар сярэдняй школы, пенсіянерка, па-ранейшаму адна з самых «рэпертуарных» актрыс тэатра. Не меншы тэатральны стаж і ў бухгалтара Еўдакіі Дзям'янаўны Ануфрык. Па дваццаць год у калектыве дырэктар кінатэатра В. Шчарбакоў, рабочы А. Рыжкоў, настаўніца хіміі Л. Літвіненка.**

**Разам з імі актыўна працуюць і маладыя—настаўніца беларускай мовы В. Клімовіч, рабочы маторарамонтнага завода П. Чугуноў, рабочы аўтакалоны П. Струкоў, камсамольскі работнік Л. Хілько.**

**Многім тэатр дапамог знайсці свой шлях у жыцці. Закончыў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кіно Юрый Крэтаў, у Мінскі інстытут культуры паступіў Анатоль Цярэнін, загадчык аддзела культуры райвыканкома, а таксама Ніна Куршук, загадчык аддзела райвыканкома. Больш за дзесяць чалавек былых слонімскіх артыстаў увайшлі ў прафесійнае мастацтва.**

**За поспехі ў развіцці аматарскага тэатральнага мастацтва рэжысёру Мікалаю Фёдаравічу Варвашэвічу прысвоена званне заслужанага работніка культуры БССР. Тэатр узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Юбіляру ёсць што ўспомніць, ёсць што сказаць на святкаванні.**

АЛЕ НА СЦЭНЕ РДК не рыхтуюцца да юбілею. Ды цяпер не так часта ўбачыш тут і саміх юбіляраў. Затое чуцен шум у суседнім памяшканні, якое пуставала сем год. Кожны дзень, без выхадных, а іншы раз і без перапынку на абед, рэжысёр тэатра будуе тут сцэну новага тэатра. Сцэну, амфітэатр залы. І гардэроб, і грымёрную. Работа прыпыняецца толькі на час рэпетыцый. На вачах узнікае, нараджаецца новы тэатр: Слонімскі эксперыментальны прафесійна-аматарскі тэатр-студыя на гаспадарчым разліку.

Перайсці на гаспадарчы разлік у раённым горадзе? Ці рэальна гэта?

Так, вытрымаць прынцып самаакупнасці ва ўмовах маленькага гарадка цяжка. Але рэжысёр і трупа вераць у поспех. І вера гэтая трымаецца не на адным энтузіязме. Справа ў тым, што тэатр вырашыў працаваць не толькі ў горадзе, але і для вясковага гледача, і менавіта на вёсцы плануе іграць большую частку спектакляў.

Апошнім часам у культурным жыцці вёскі адбыліся своеасаблівыя змены. Тэлебачанне «зачыніла» клубы. Людзі збіраюцца ў іх рэдка. Знікла цікавасць і да самадзейнасці—і зноў жа яна на блакітных экранах вышэй, чым у сваім клубе. І ў такіх умовах жывы тэатр—чаканы госць. Па-першае, гэта па-ранейшаму навінка для вёскі. Ні тэлебачанне, ні добраўпарадкаваны побыт не могуць замяніць жадання сабрацца ўсім разам. Людзям хочацца нейкага агульнага, жывога відовішча. І самае галоўнае—узровень гэтага відовішча. А за якасць слонімскі тэатр можа паручыцца. Якасць залежыць ад рэжысёра, саміх акцёраў, іх таленту, працы. І настойлівасці.

**А настойлівасць тэатру давялося праявіць. Амаль год прайшоў з таго часу, калі трупа аднадушна падтрымала прапанову Варвашэвіча перайсці на гаспадарчы разлік. Сустрэла падтрымку гэта ідэя і ў Міністэрстве культуры БССР. Але на месцы пытанне вырашалася не так хутка, з'яўляліся адна перашкода за другой. І калі пытанне вынеслі на выканком —выканком не зацвердзіў пастановы аб тэатры, запатрабаваўшы новыя паперы «зверху». А калі ўсе даведкі і дакументы з аблвыканкома, Міністэрства культуры, Міністэрства фінансаў і Дзяржкампрацы БССР былі прадстаўлены, знайшліся новыя прычыны адмовіць. Маўляў, Міністэрства культуры не змагло—хоць і абяцала—адразу ж даць для тэатра аўтобус.**

Не дапамаглі перакананні, што першы час тэатр змог бы карыстацца аўтобусам аддзела культуры, тым больш, што іх там нават два, новы і стары, спісаны, які яшчэ «на ходу». Не дапамаглі ні здабытыя паперы, ні тлумачэнні, што тэатр не просіць ні капейкі ў гарвыканкоме, а нават сам будзе адлічваць грошы са сваіх даходаў. Справа дайшла і да ўсім вядомага выразу «Масква далёка» і да аргумента: «А як эксперымент не ўдасца, хто будзе адказваць?» А калі аднойчы адказныя работнікі амаль што дзве гадзіны ўпрошвалі калектыў адмовіцца ад «небяспечнай» задумы і «падазронага» эксперыменту, трупа разам з рэжысёрам ужо збіралася ехаць у рэдакцыю «Пражэктара перабудовы»...

Пытанне ўсё ж вырашылі на месцы—пасля сустрэчы рэжысёра з першым сакратаром гаркома партыі Уладзімірам Пятровічам Рызянкевічам. Адразу ж пасля гутаркі тэатр атрымаў памяшканне (памяшканне, якому сем год не маглі знайсці прымянення, аддалі тэатру раней, але калі высветлілася, што намеры перайсці на гаспадарчы разлік сур'ёзныя, забаранілі будаваць сцэну і амфітэатр).

Цяпер адміністрацыйныя пакуты як быццам пераадолены. Іншы раз, паглядзеўшы на падзвіжніцкую працу Варвашэвіча, не-не ды і падумаеш: навошта яму ўсё гэта? У тэатра рэпутацыя аднаго з лепшых у рэспубліцы. У рэжысёра—ганаровае званне. Падтрымліваць гэтакі парадак няцяжка. Некалькі спектакляў у год—і ўся справа. А замест гэтага чалавек узвальвае сабе на плечы нялёгкую і рызыкоўную працу. Навошта?

**— Усё сваё жыццё і ў прафесійным, і ў аматарскім тэатры я адчуваў, што працую напаўсілы. Умовы складваліся так, што ў поўную сілу было нікому не патрэбна, ды і іншы раз немагчыма. А хочацца ўсё ж такі менавіта ў поўную сілу! Цяпер многа размоў наконт таго, што перабудова да нас не дайшла. Мы больш чуем аб ёй. Але нават тое, што мы чуем, натхняе на барацьбу. Мы перамаглі на першым этапе і верым, што пераможам і далей, у той рабоце, што чакае нас наперадзе. — кажа рэжысёр тэатра Варвашэвіч.**

І ВАРВАШЭВІЧ, і ўвесь калектыў тэатра вераць у поспех. Яны ўлюбёныя ў сваю справу, за імі вопыт і веданне сваёй справы. А яшчэ за імі—мары. Варвашэвіч марыць аб'яднаць вакол тэатра ўсе творчыя сілы горада. У тэатры нярэдкія госці слонімскія пісьменнікі А. Іверс і А. Руцкая, мясцовыя мастакі, кампазітар Міхаіл Гарабец, што піша музыку да спектакляў, інтэлігенцыя горада. Калі тэатр зможа трывала стаць на ногі, то з дапамогай горада можна было б адрамантаваць будынак старога РДК—цяпер ён амаль што разбураны, а гэта ж гістарычны помнік. Усе яшчэ памятаюць, як на гэтым будынку вісела мемарыяльная дошка з надпісам, які сведчыў, што тут у 1919 годзе адбыўся з'езд рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Будынак канца XIX стагоддзя мог бы стаць культурным цэнтрам горада. Рамонт будынка каштуе нямала, але раней намер адрамантаваць яго ўжо быў, нават шукалі падрадчыка, справа гэта рэальная.

А пакуль што з сякерай у руках рэжысёр будучага тэатра будуе сцэну. Гледзячы на яго работу, верыш, што ён завершыць распачатае, і на гэтай сцэне неўзабаве адбудзецца прэм'ера.

**Уладзімір БУТРАМЕЕЎ.**
г. Слонім.

## «ТАЙНА ВОБРАЗА ТВАЙГО»

Вясна і паэзія заўсёды крочаць разам. Ці не таму менавіта на красавіцкія сонечныя дні прыпала дата вечара ў нечым незвычайнага: на ім выступалі толькі паэтэсы.

«Тайна вобраза твайго»—так называўся гэты вечар, арганізаваны пры ўдзеле рэспубліканскага і гарадскога таварыстваў аматараў кнігі і праведзены ў Доме літаратара. Артысты А. Уладамірскі і Ю. Кухаронак напачатку прачыталі вершы Мустая Карыма, Максіма Танка, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага ў перакладах на рускую мову, прадставіўшы такім чынам кніжку-«малютку» «Песнь о женщине» («Мастацкая літаратура», 1987, укладальнік В. А. Вільтоўскі). А потым слова бралі Вольга Іпатава, Галіна Каржанеўская, Ірына Багдановіч і Таіса Бондар, якая адкрывала вечар паэзіі і вяла яго. Паэткі не толькі прачыталі вершы, але і адказалі на пытанні прысутных.

**Г. ЗІНКЕВІЧ.**

## У небе Іспаніі

**Выдавецтва «Беларусь» выпусціла кнігу Антоніо Арыаса «У вогненным небе».**

**Цікавы лёс аўтара кнігі, сына колішняга рабочага-пекара з Мадрыда. Нарадзіўся ў 1915 годзе. Сям'я сяк-так зводзіла канцы з канцамі, тым не менш хлопец па вечарах змог вучыцца ў мастацкім вучылішчы, закончыў курсы чарцёжнікаў, атрымаў сярэднюю адукацыю, рана далучыўся да нацыянальна-рэвалюцыйнага руху. Пазней стаў ваенным лётчыкам, пасля паражэння рэспубліканцаў назаўсёды выбраў сваёй другой радзімай Савецкі Саюз, ваяваў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Перад выхадам на пенсію працаваў механікам аднаго з цэхаў на Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа.**

**Пра найбольш значныя эпізоды свайго яркага жыцця, пра барацьбу з фашызмам сваіх сяброў, воінаў-інтэрнацыяналістаў А. Арыас расказвае ў кнізе. Яму, бываламу чалавеку, дапамог напісаць кнігу Б. Налівайка, які шмат гадоў працаваў у ваенным друку і піша ў асноўным пра лётчыкаў.**

**Кніга напісана стрымана, без залішніх эмацыянальных перакосаў, лірычных адступленняў. А. Арыас засяроджвае ўвагу толькі на найбольш істотных момантах са сваёй ваеннай біяграфіі, што дазваляюць адчуць, якія важныя падзеі адбываліся ў тагачаснай Іспаніі, як быў пастаўлены адзін з першых заслонаў на шляху фашызму і як людзі розных нацыянальнасцей пераканаліся ў тым, што толькі ў сумеснай барацьбе, агульнымі намаганнямі яны могуць зламаць хрыбет ворагу.**

**Інтэрнацыянальны пафас мемуараў А. Арыаса відавочны. З асаблівай цеплынёй і прызнасцю расказвае ён пра савецкіх лётчыкаў, якія сустрэліся на ягоным жыццёвым шляху. Запамінальныя эпізоды, дзе гаворыцца пра ваеннае пабрацімства з нашым земляком, двойчы Героем Савецкага Саюза Сяргеем Грыцаўцом, што пачынаў сваю лётную біяграфію ў Іспаніі, а потым вызначыўся ў баях на Халхін-Голе.**

**Асноўны змест кнігі—расказ пра тое, як А. Арыас ваяваў у іспанскім небе. Але ж і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, стаўшы савецкім грамадзянінам, ён не развітаўся з небам — завяршыў вайну з фашызмам у сорак пятым на тэрыторыі Усходняй Прусіі.**

**С. ВІРЗОЎСКІ.**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### КРЫТЫЦЫ — ДЗЕЙСНАСЦЬ І БАЯВІТАСЦЬ

**Адбылося чарговае пасяджэнне секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў БССР. З паведамленнем «Аб выніках пасяджэння Савета па крытыцы і літаратуразнаўстве СП СССР «Літаратурна-крытычныя часопісы ў святле перабудовы» выступіў удзельнік гэтага пасяджэння, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР В. КАВАЛЕНКА. Ён падкрэсліў, што гаворка на пасяджэнні вялася дзелавая і прынцыповая, якая часта выходзіла і за межы пытанняў чыста творчых, закранаючы розныя аспекты ідэалагічнай работы на сучасным этапе. У прыватнасці, многія звярнулі ўвагу на публікацыю ў газеце «Советская Россия», падвергшы рэзкай крытыцы развагі аўтара. Гэта тым больш сімптаматычна, бо адпор сілам, якія не прымаюць перабудову, быў дадзены яшчэ да вядомага перадавога артыкула «Правды».**

**У сувязі з паведамленнем В. Каваленкі старшыня бюро секцыі Н. ПАШКЕВІЧ развіў думку аб тых задачах, што стаяць перад работнікамі крытычнага цэха ва ўмовах перабудовы, гаварыў пра актыўнасць крытыкаў, іх пастаянны ўдзел у мастацкім працэсе.**

**На пасяджэнні была абмеркавана творчасць Т. Грамадчанкі. Падрабязны аналіз яе зробіў Я. ЛЕЦКА. Спыніўшыся на асобных, найбольш значных артыкулах і рэцэнзіях аўтара, прамоўца адзначыў, што ў асобе Т. Грамадчанкі беларуская крытыка і літаратуразнаўства маюць баявога, прынцыповага аўтара, многія публікацыі якога звярнулі на сябе ўвагу літаратурнай грамадскасці. Гаворку пра творчасць Т. Грамадчанкі прадоўжылі П. ДЗЮБАЙЛА, М. МУШЫНСКІ, А. СЯМЕНАВА, В. КАВАЛЕНКА, У. КАЗБЯРУК.**

**НАШ КАР.**

### ПЕСНІ РОДНАЙ ХАРАСТВО

**Актавая зала філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, бадай, ніколі яшчэ не выбухала такім громам апладысментаў. Хлебам-соллю на вышываным ручніку сустракалі будучыя настаўнікі-славеснікі заслужаную артыстку БССР Валянціну Пархоменку разам з яе верным спадарожнікам Аляксандрам Казаком. Ініцыятарам сустрэчы стала кафедра беларускай мовы.**

**Духмяным водарам палескіх лугоў і ніў, вірлівымі ручаямі Гродзеншчыны і Полаччыны, жыццёвай мудрасцю часу і дасціпным перазовам маладосці патыхала ад добра знаёмых і зусім невядомых песень.**

**Алег Лойка заўважыў пасля канцэрта, што такая сустрэча дае для студэнта ў дзесяць разоў больш, чым любая лекцыя. Не пагадзіцца з гэтым цяжка. Беззапаветная любоў да роднай песні, мілагучная беларуская мова, якой свабодна і натуральна валодаюць артысты, шчырасць і сардэчнасць думак і разваг на працягу амаль дзвюх гадзін сустрэчы-канцэрта — усё гэта знайшло самы гарачы водгук.**

**Зацікавіліся спявачкай і супрацоўнікі навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі, якія прапанавалі для яе рэпертуару некалькі невядомых мелодый народных песень, запісаных у розных кутках Беларусі.**

**М. ПРЫГОДЗІЧ,**
**дацэнт кафедры беларускай мовы БДУ імя У. І. Леніна.**

## СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ

# СЁННЯ ШАНЦАЎ БОЛЬШ

ГАЛОСНАСЦЬ — найбольш прыкметная пакуль заваёва перабудовы — зняла табу на многія «забароненыя» раней тэмы, у тым ліку і на тэму нацыянальнага развіцця. «Становішча роднай мовы, наша нацыянальная самасвядомасць, гісторыя, беларуская прырода, духоўнае спусташэнне моладзі — вось тыя балючыя, даўно наспеўшыя праблемы, якія нарэшце пачалі прызнавацца афіцыйна і абмяркоўвацца на старонках друку» (М. Адамін, Друскінінкай).

Лісты, у якіх нашы чытачы выказвалі трывогу за лёс роднай мовы, культуры, мы неаднаразова змяшчалі на старонках «ЛіМа». У іх было ўсё: эмоцыі і факты, пытанні і прапановы, папрокі ў адрас канкрэтных устаноў і агульныя разважанні. Ідзе час, а паток пісьмаў не мялее. Міжволі ўзнікае параўнанне з паўнаводнай ракой, якая вызвалілася з лёдавых абдымкаў і мкне на шырокі, вольны прастор.

«Калі б не вайсковая служба, — піша нам афіцэр запасу А. Якаўлеў з Северадзвінска,— не ведаю, якім было б маё стаўленне да роднай мовы. (Ён заканчваў рускую школу ў Віцебску. — **Рэд.**). Знаходзячыся ў шматнацыянальным асяроддзі, я заўважыў, што прадстаўнікі ўсіх народаў нашай неабсяжнай краіны добра ведаюць сваю мову, гісторыю, звычаі. Але за 20 год службы я не сустракаў беларуса, які б добра размаўляў па-беларуску. Пачуццё крыўды і сораму за сябе і за тых, ад каго гэта залежала, прымусілі мяне ўжо ў сталым узросце самастойна вывучаць мову. Выпраўляць памылкі, вядома, ніколі не позна, але ж памылак такіх магло б і не быць».

Падобных прызнанняў шмат. А яшчэ больш у чытацкай пошце сумнавядомых фактаў: школа, дзіцячы сад, газеты, паштоўкі, машынкі, экскурсаводы... «Беларускай карэктаркі не знайсці», — паведамляе пінскі журналіст Ф. Глінскі.

Не намі заўважана: мы ўсе «прозреваем» неяк адначасова і гэтак жа адначасова пачынаем біць у званы, чаго б гэта ні тычылася — эканомікі, п'янства і да т. п. Так і ў справе нацыянальнай. Усвядоміўшы, што падышлі да мяжы, за якой —бездань, нашы суайчыннікі схамянуліся. І калі адны абмяжоўваюцца эмоцыямі, то іншыя імкнуцца дайсці да вытокаў, зірнуць, як гаворыцца, «у корань».

Вось што піша нам выдатнік народнай асветы В. Сокал (Ляхавіцкі раён): «Зразумела, у першую чаргу вытокі нацыянальнага нігілізму трэба шукаць у перыядзе культу асобы, калі ледзьве не пад мікраскопам паўсюль шукалі нацыяналізм. Спачатку наклейвалі бірку «нацдэма», затым — расправа. «Дапамог» і пазнейшы тэзіс аб зліцці моў. Знайшліся тэарэтыкі - лінгвісты, якія сваімі наспех спечанымі псеўданавуковымі вывадамі стараліся практычна ствараць умовы для аблягчэння мук «пераходу ў небыццё».

В. Леўшанкоў з г. Душанбе, рускі па нацыянальнасці (ён падкрэслівае гэта ў сваім лісце), бачыць адну з прычын цяперашняга становішча беларусаў у іх гістарычным лёсе. «Долгие века народа без государства, меж двух сил могли выработать, что называется, комплекс неполноценности». І далей: «Какой народ по своей воле уходит с земли? Если белорусы и далее будут так относиться к своей национальной культуре, то будут в этом списке первыми. Кроме того, у народов появится причина относиться к ним с презрением».

Мяркуючы па пошце, апошняе няблага ўсведамляюць і самі беларусы. «Цяжка ўявіць, што маглі б нам сказаць вялікія дзеячы беларускай культуры мінулых стагоддзяў, які папрок яны б зрабілі нам за сённяшняе становішча», — піша А. Анціповіч у сваім водгуку на артыкул Васіля Быкава «Учора і сёння» (водгук, дарэчы, не адзіны). Нельга не пагадзіцца і са словамі В. Куксы, выхавацелькі дзіцячага сада г. Брэста: «Трэба ўсё зрабіць, каб нашы дзеці не праклiналі нас за тое, што мы не дапамаглі ім авалодаць і мовай, і культурай, не давялі да свядомасці, што такое нацыянальная гордасць беларуса».

Усё, што нейкім чынам закранае нацыянальныя пачуцці, выклікае асабліва гарачы водгук. Так здарылася і з вершам Пімена Панчанкі «Развітанне» (як, дарэчы, і з усімі яго публікацыямі апошняга часу). «Жорстко, але справедливо. Така поезія будить розум і не дає заснути душі. Це наші реальні біди, а не коньюнктурщина. Згадалось Шевченкове: «Погибнеш, згинеш. Україно, Не стане знаку на землі» (В. Бендзют, г. Хмяльніцкі). «Не хачу, не маю права згаджацца з такой думкай! — пратэстуе пятнаццацігадовая Г. Бутырчык з Мінска, якая марыць стаць настаўніцай. — Наперадзе жыццё, але я не ўяўляю свой жыццёвы шлях без роднай мовы». Не пагаджаецца з народным паэтам і Анатоль Сыс: «Толькі два гады таму я ўліўся ў літаратурны і грамадскі працэс, але і гэтага хапіла, каб зведаць горкі хлеб беларускага пісьменніка. Аднак, што б ні здарылася, я не адступлю і не скажу, што гэта канец».

Так, верш «Развітанне» — балючы, горкі. Зазірнуць у бездань, каб жахнуцца, каб не зрабіць апошняга непапраўнага кроку, — вось, на наш погляд, асноўная яго думка.

Людзей непрыемна здзіўляе, калі мовай не валодаюць дзеячы беларускага тэатра (пра што піша М. Кавалёў з Рагачова), журналісты беларускіх выданняў, работнікі органаў асветы. Хаця ў большасці выпадкаў ёсць падстава гаварыць не пра віну, а пра бяду, усё ж пагодзімся з У. Лупаковым, які праходзіць тэрміновую службу ў Казахстане: «Мне пустасловамі здаюцца тыя, хто пяе пра любоў да

# ЯК ЖЫВЕШ, ВЯСКОВЕЦ?

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).

**слова, як ВЫГАДА. Можна папракаць іх за гэта, а можна і зразумець. Дзесяцігоддзямі ў вясковага чалавека выкаранялі гэтыя «дробнаўласніцкія» ўхілы, адвучалі ад зямлі і ад асабістай гаспадаркі, дык ці лёгка гэтак адразу павярнуць яго ў процілеглы бок?**

**Цікавую прапанову пачула я ў гэтым калгасе ад саміх людзей — ствараць малочныя кааператывы. Гэта было б сапраўднае выйсце і для пажылых людзей, у якіх ужо няма сілы і здароўя, каб назапасіць на карову кармоў, але ёсць час і жаданне даглядаць жывёлу, і для маладых, якія хацелі б мець карову, але не маюць часу, каб даглядаць. Затое яны б узялі на сябе галоўны клопат — забяспечыць кааператыў кармамі, дапамагаць там, дзе патрэбны ім маладыя рукі. На мой погляд, пачынанне гэтае заслугоўвае таго, каб яго горача падтрымалі. Застаецца толькі дачакацца энтузіяста, які б узяўся за арганізацыю гэтай карыснай справы. Дачакацца, ці пашукаць яго сярод аднавяскоўцаў?**

**КАЛІ чалавек чвэрць стагоддзя служыць адной справе, як Уладзімір Сцяпанавіч Вялічка, усё, што робіць, ён не можа не супастаўляць з днём мінулым і днём будучым. І кожнае яго пачынанне грунтуецца на трывалым падмурку — вопыце, жыццёвых назіраннях. Многія праблемы, якія востра стаяць сёння перад сучаснай вёскай, у калгасе імя Янкі Купалы паспяхова вырашаюцца. Так, вырашана на сённяшні дзень кадравая праблема спецыялістаў, сваімі сіламі калгас спраўляецца з уборкай ураджаю, паслугамі студэнтаў тут не карыстаюцца, няма за спіной калгаса і шматлікай арганізацыі шэфаў. Старшыня добра разумее, што багацце калгаса, яго будучыня — гэта людзі, якія будуць працаваць на гэтай зямлі. Мала сказаць, што калгас імя Янкі Купалы цалкам укамплектаваны спецыялістамі сельскай гаспадаркі — спецыялісты гэтыя, што самае важнае, за малым выключэннем людзі, якія нарадзіліся і выраслі на гэтай зямлі. Ветэрынары, заатэхнікі, механікі аўтапарка, начальнік машыннага двара, прараб, галоўны энергетык, дырэктар Дома культуры, брыгадзіры — нават цяжка пералічыць усіх. Урэшце варта сказаць, што тут нарадзіліся і сам старшыня калгаса Уладзімір Сцяпанавіч Вялічка, намеснік старшыні — Алена Сямёнаўна Аўхукова, парторг Уладзімір Аляксандравіч Сярноў і старшыня сельсавета Мікалай Ягоравіч Лугаўцоў. Мне зразумелы іх клопат аб змене, жаданне папоўніць свае рады людзьмі, якія выраслі на гэтай зямлі. А таму, натуральна, іх погляды скіраваны на выпускнікоў адзінай на ўвесь калгас (калі не лічыць Ляўкоўскую пачатковую школу, у якой зараз вучыцца некалькі дзяцей) школы-дзесяцігодкі, у якой на сённяшні дзень усяго дзевяноста чатыры вучні. Сямёра з іх дзесяцікласнікі. У мінулым годзе выпускнікоў было пяць. Ніхто з іх у вышэйшыя навучальныя ўстановы не паступіў, хоць калгасу вельмі хацелася мець сваіх стыпендыятаў. І не будзем вінаваціць у тым толькі школу, настаўнікаў...**

**Мне ўспомнілася, як у 1972 годзе закрывалі Смётанскую васьмігадовую школу. Да таго часу побач са старым будынкам школы быў ужо ўзведзены падмурак новай. Але нечакана паступіў загад школу закрыць. Было ў ёй тады сто дваццаць вучняў. Зараз са Смётанкі ходзіць у Зубаўскую дзесяцігодку восем дзяцей. Параўноўваючы лічбы, можна ўбачыць, якімі тэмпамі за гэтыя пятнаццаць год ішло выміранне вёскі. А здавалася, нічога асаблівага не адбылося. Закрылі, як тады казалі, малакамплектную школу, вучняў перавялі ў іншую, што ў цэнтральнай вёсцы калгаса, узбуйнілі яе. Думалася, што калі ручаёк скіраваць у іншым напрамку, ён не высахне, увальецца ў шырэйшую рэчку і нічога ў жыцці не зменіцца. Ажно не, змянілася. Вельмі хутка той ручаёк перасох, бо растаптанаю аказалася крыніца, якая жывіла яго. Пакуль была школа, была і бібліятэка, быў і клуб, і, нягледзячы ні на што, вёска жыла. Закрыццё школы ў многім вырашыла яе лёс.**

**Цяпер некалькі слоў пра Зубаўскую дзесяцігодку. Як я ўжо нагадвала, вучацца ў школе дзевяноста чатыры вучні, працуе дваццаць настаўнікаў. Восем з іх мясцовыя, астатнія прыязджаюць на работу з горада. Школа беларускамоўная. Вось тут і пачынаюцца і нараканні, і непаразуменні, і боль. Калі называюць лічбу беларускамоўных школ у рэспубліцы, варта задумацца, наколькі яны беларускамоўныя ў сапраўднасці. Падручнікі ў школе, як тое і павінна быць, на беларускай мове. А вось большасць настаўнікаў роднай мовы не ведаюць і выкладаюць на рускай. Дзеці адказваюць урок як могуць. Балюча слухаць іх гаворку. Усё гэта разам узятае не можа, вядома, не адбіцца на ведах вучняў. І, як заўсёды, пакаранымі аказваюцца тыя, хто менш за ўсё вінаваты ў гэтай складанай сітуацыі, — дзеці.**

**Ёсць у калгасе дзіцячы садзік. У ім зараз сорак дзяцей. Гэта самая рэальная лічба будучых вучняў Зубаўскай дзесяцігодкі. Вёскі, нават не вельмі аддаленыя ад цэнтральнай сядзібы калгаса, такія, да прыкладу, як мая родная Смётанка, што ўсяго за тры кіламетры ад Зубава і дзе яшчэ засталося больш як сто двароў, наўрад ці змогуць паменшыць дэфіцыт школьнікаў, а потым і маладых спецыялістаў з пастаяннай мясцовай прапіскай, якімі так ганарыцца калгас.**

**У ЦЭНТРЫ вёскі, побач з праўленнем калгаса, вылучаюцца сярод іншых пабудоў два трохпавярховыя будынкі. Тут жывуць калгаснікі. На першым паверсе аднаго з іх два пакойчыкі займае пункт Аршанскага камбіната бытавога абслугоўвання, які прапаноўвае насельніцтву больш за дваццаць розных паслуг. Вам тут адрамантуюць тэлевізар, халадзільнік, якія не трэба цяпер вазіць у горад. Ахвотна заказваюць у камбінаце мэблю, бяруць рэчы напракат, такія, як швейная ці пральная машына. Кожны тыдзень прыязджае на вёску цырульнік. У любы зручны для працаўніка час тут можна здаць у рамонт абутак, трыкатажнае адзенне. А ўсё разам узятае — эканомія часу, якога заўсёды нестае вясковаму чалавеку. З такім жа пачуццём наведала я і Дом механізатара на машынным двары. Усё прадумана ў планіроўцы дома да дробязей, ва ўсім адчуваецца клопат аб людзях, якія працуюць тут. Ёсць пакой, дзе збіраюцца механізатары перад пачаткам работы, ёсць дзе адпачыць, прыняць душ, перакусіць, добра аформлены, утульны ленінскі куток.**

**І цяжка растлумачыць карціну, якую ўбачыла ў той жа гаспадарцы, за тры кіламетры ад цэнтральнай сядзібы, у сваёй роднай вёсцы. На брыгадным двары — старэнькая хібарка. Тут захоўваюцца хамуты, іншы вупраж, тут рамантуюць сані і калёсы, тут праводзіцца брыгадная разнарадка. На сённяшні дзень гэта адзінае месца, дзе можна правесці якую сходку. Тая хібарка тут і замест клуба, і замест хаты-чытальні, брыгаднага дома. Тут холадна і няўтульна. Узімку вокны зацягнуты поліэтыленавай плёнкай, на падаконніках снег.**

**Нераўнамернае развіццё вёсак... Гэта таксама нямала садзейнічала міграцыі насельніцтва з вёскі ў горад. Калі я чую разважанні людзей, часцей за ўсё далёкіх ад жыцця вёскі, аб тым, як затрымаць моладзь у вёсцы, што яшчэ для іх зрабіць, калі і так, здаецца, зроблена нямала і створаны ўсе ўмовы для працы і жыцця—і кватэры добраўпарадкаваныя, і палацы культуры, і стадыёны, і бібліятэкі, і высокі заробак гарантаваны, мне заўсёды хочацца запярэчыць. Так, усё гэта ёсць у калгасе, і ў той жа час нічога гэтага няма. А калі гаварыць больш дакладна, усе гэтыя даброты трэба шукаць у адной цэнтральнай вёсцы. А калгас, як у нас на Віцебшчыне,— гэта пяць-шэсць амаль роўных па велічыні і насельніцтве вёсак. Але развіваецца, добраўпарадкоўваецца з году ў год адна — цэнтральная. І ў той час, як у цэнтральнай будаваліся палацы культуры, клубы, у іншых вёсках нічога з грамадскіх збудаванняў не ўзводзілася. Яшчэ нядаўна лічылася, што Палац культуры ў цэнтры калгаса ўжо сам па сабе можа адразу вырашыць мноства праблем, павысіць культурны ўзровень вёскі, наблізіць яе такім чынам да горада, прывабіць моладзь. Палацы будаваліся нават тады, калі на рахунку калгаса не было ні капейкі, а пазыка ў дзяржавы ўсё расла. Будавалі навыперадкі, адзін перад адным, здзіўляючы сваіх суседзяў размахам пабудовы і нараджаючы зайздрасць. Памятаю, у Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці, дзе я працавала некалькі год, у цэнтры саўгаса была пабудавана саўна, і памыцца ў ёй не грэбавала нават раённае начальства. У той жа час з году ў год на выканкоме сельскага Савета востра ставілася пытанне аб неабходнасці пабудаваць у кожнай вёсцы саўгаса звычайную лазню. Пытанне ставілася і ніяк не вырашалася. Вядома, мне скажуць, што нельга пабудаваць у кожнай вёсцы Палац культуры ці фінскую лазню. А гэтага і не трэба. Трэба толькі больш уважліва прыслухоўвацца да надзённай патрэбы працаўнікоў. Прыклад таму— самая маленькая вёсачка калгаса імя Янкі Купалы, усім нам вядомыя Ляўкі. Вёска гэтая мае гістарычнае значэнне, яна не павінна была знікнуць з зямлі нашай, і яна выжыла, стала яшчэ прыгажэйшай. Тут палічылі неабходнасць захаваць пачатковую школу, хоць школы-дзесяцігодкі ёсць і ў**

роднай Беларусі, а сам па-беларуску, што называецца, «ні бум-бум».

Пытанні выклікала тэлевізійная сустрэча з Васілём Быкавым і Алесем Адамовічам, дзе яны размаўлялі на рускай мове. Маўляў, на каго ж нам цяпер абаперціся? Павінны адвесці папрок ад нашых вядомых пісьменнікаў. Напэўна, не ўсе, хто глядзеў «Ліру», звярнулі ўвагу на дыктарскі тэкст. У ім было патлумачана, што перадача падрыхтавана для ўсесаюзнага гледача.

Усё часцей у чытацкіх лістах сустракаюцца словы «рэнегацтва», «канфармізм». Карані гэтай сапраўды ганебнай з'явы там жа — у гадах культу асобы і грамадскага застою. Чыноўнікі падчас здабывалі сабе «крэсла» цаной адрачэння ад маральна-этычных асноў народа. «Наконт бюракратычнай «снисходительности» да вялікай справы скажу проста: не месца людзям, якія не дараслі да ўсведамлення яе велічы, «состоять» пры ёй. У нас нямала знойдзецца людзей шчырых і адданых і ў большай ступені, чым яны, «просвещенных», каб заняць іх месца». (А. Мемус, мастак).

У гэтай сувязі варта прывесці наступны факт (яго згадвае ў сваім грунтоўным лісце В. Сокал). М. І. Калінін на сустрэчы з дэлегатамі Тыдня Савецкай Беларусі ў студзені 1931 г. на запытанне, ці чытае ён беларускія газеты, адказаў, што ўвесь час чытае «Звязду» і «Калгаснік Беларусі», згадаў імёны Купалы, Коласа... Чым не прыклад для тых, хто таксама жадае ведаць «душу беларускага рабочага і селяніна»?

Праўда, у апошні час ідэалагічныя ўстановы з большай увагай і разуменнем ставяцца да набалелых пытанняў, адпаведна — адчуваюцца і зрухі. Сярод канкрэтных крокаў на шляху да паляпшэння справы — нарада ў Мінскім гаркоме партыі з удзелам дырэктараў школ, прадстаўнікоў райана і райвыканкомаў, сустрэча на вышэйшым узроўні ў ЦК КПБ. З перспектыўным планам работы на сустрэчы выступіла міністр асветы. І хоць многія намечаныя меры маюць касметычны характар, усё ж тэндэнцыя да выпраўлення становішча адчувальная.

На жаль, пазіцыя кіраўнікоў Міністэрства асветы не вызначаецца паслядоўнасцю, што ўплывае на мясцовыя органы асветы. Пра гэта сведчыць і дасланы нам ліст выкладчыка іспанскай мовы М. Бусла.

М. Бусел, прааналізаваўшы праграму дашкольнага выхавання 1982 года, як ён піша, — «за галаву схапіўся: чыноўнік 1965 і сам падпісаў бы яе!» Настаўнік пацікавіўся, як жа ідуць справы ў садзіку в. Дуброва Светлагорскага раёна, дзе ён жыве і працуе. Высветлілася, што беларуская — ужо нашто мізэрная! — частка праграмы там не выконваецца. Чаму? З гэтым пытаннем звярнуўся ён да метадыста Светлагорскага райана. Не атрымаўшы пэўнага адказу, паслаў лісты ў Гомельскі аблана, а потым і ў Міністэрства асветы. Што ж міністэрства? Яно ўжо тры месяцы не падае прыкмет жыцця. А як прыгожа аднойчы выказалася міністр асветы Л. К. Сухнат: «Мова народная — тая невычэрпная крыніца дабрыні, любові і павагі да роднага краю, якую ўвесь час трэба даглядаць, старанна клапаціцца, каб не знікла яе жыватворная сіла». («Настаўніцкая газета» за 9.01.1988 г.).

І хоць загадчык Светлагорскага райана пісьмова запэўніў М. Бусла, што загад № 32 «Аб стане і мерах далейшага паляпшэння выкладання беларускай мовы ў школах рэспублікі» стаіць «на кантролі», загадчыца Дубровенскага дзіцячага сада (бухгалтар па адукацыі) тым часам праводзіць сярод бацькоў «рэферэндум»: на якой мове вы хочаце, каб навучаліся вашы дзеці?

«Гэта найвялікшая недарэчнасць, што моўнае навучанне ў школе аддадзена на густ бацькоў, — лічыць былы калгасны эканаміст з Оршы В. Касперскі. — Ніхто, дарэчы, не пытаў у бацькоў, калі ўводзілася абавязковая сярэдняя адукацыя, калі складаліся навучальныя праграмы. Работнікі асветы ўвесь час спасылаюцца на закон 1938 г. Але з тых часоў шмат што ў краіне карэнным чынам змянілася».

Патрабуюцца радыкальныя дзяржаўныя мерапрыемствы. Гэта думка прагучала ў лістах як В. Касперскага, так і В. Сокала, М. Адаміна, А. Анціповіча з Мінска, В. Арлова з Віцебска.

А. Белакоз, вядомы настаўнік з Гудзевіч, выказвае прапанову, каб на жнівеньскія настаўніцкія нарады выязджалі не толькі пісьменнікі, але і вучоныя, мастакі, кампазітары, якія любяць свой народ і яго мову. Прапанова слушная. Аднак практыка паказала, што да такіх візітаў насцярожана ставяцца некаторыя кіраўнікі райана.

Дарэчы, адказных работнікаў асветы нашы чытачы «ловяць» на недакладнасцях, падтасоўках. Так, у адказе М. Буслу «выправілі» дату яго заявы: з 21.12.87 г. на 10.02.88 г. Ці не таму, што з адказам затрымліваліся?

М. Мельнік з Ліды спатыкнуўся на інфармацыі намесніка міністра асветы БССР Г. А. Бутрыма: «У педвучылішчы прадметы выкладаюцца на беларускай мове...» («ЛіМ» за 2.10.1987 г.). Ён як выкладчык педвучылішча добра ведае, што гэта не зусім адпавядае, а дакладней — зусім не адпавядае сапраўднасці.

Чытачоў непакояць і больш прыватныя пытанні, напрыклад, — пэўная адарванасць літаратурнай мовы ад жывой, гутарковай. Рэформа беларускага правапісу 1933 г., па словах М. Адаміна, была праведзена «валюнтарыстамі ад кабінетнага мовазнаўства». Пра наспеўшую неабходнасць новай рэформы пішуць і Т. Палякоў з Магілёва, В. Міхасёнак з Маладзечанскага раёна.

Ц. Острыкава з Гомеля не зразумелі ў «Гомельскай праўдзе», куды ён звярнуўся з нараканнем на нізкую моўную культуру многіх матэрыялаў. Замест таго, каб прыняць заўвагу чытача і быць больш уважлівымі ў моўных адносінах, рэдакцыя спасылаецца на... білінгвізм. «Вось каб быў цыркуляр зверху, тады б...», — справядліва іранізуе наш гомельскі карэспандэнт.

О, каб жа гэты цыркуляр! Як бы заварушыліся, як бы пачалі завіхацца ўсе, хто пакуль што перабудоўваецца толькі на словах! Нясмеласць і нерашучасць нездарма лічацца нашай нацыянальнай рысай. Ці не ў ёй яшчэ адна прычына многіх нашых бедаў? «У нябачных, схаваных ад мас «бяскроўных» грамадзянскіх бітвах байцу за ісціну падчас трэба валодаць зусім асаблівай стойкасцю», — сцвярджае У. Дудзінцаў («Комсомольская правда» за 19.04.1988 г.). І ён жа запэўнівае: «...сённяшні змагар з бюракратыяй мае куды больш шанцаў на поспех, чым мы некалі».

На гэтай аптымістычнай ноце і закончым чарговы агляд чытацкай пошты.

**АДДЗЕЛ КРЫТЫКІ І БІБЛІЯГРАФІІ.**

---

Зубаве і зусім побач, у Копысі. Аднак школу захавалі, таксама як і бібліятэку, зрабілі ўсё, каб жыхары вёскі на месцы мелі работу і добры заробак, стварылі ў брыгадзе невялікую свінагадоўчую ферму для адкорму свінаматак. Шашэйная дарога звязвае вёску з раённым цэнтрам і цэнтрам калгаса. Мае аднавяскоўцы падобраму зайздросцяць сваім суседзям. Яны могуць толькі марыць пра дарогу ў тры кіламетры, якая б звязала іх з цэнтрам калгаса. А пакуль што вучняў у школу і са школы падвозяць на кані, для гэтага калгас трымае возчыка-пенсіянера.

Шчыра парадавалася я за сваіх аднавяскоўцаў, калі ўбачыла на вуліцы водаправодныя калонкі. Але радасць адразу ж знікла, як толькі пагаварылі з тымі, каго абмінулі ўвагай, — адзін канец вёскі застаўся без вады. Па-ранейшаму старыя кабеты мусяць насіць ваду з рэчкі, для ўжывання не вельмі прыдатную. І носяць у сэрцы крыўду на людскую несправядлівасць. А ў цэнтры калгаса разважаюць так: «Во народ пайшоў! Колькі год жылі без водаправода і нічога! А зараз кожнаму падай ваду аж у хату. Ну, не дацягнулі крыху той водаправод... А для каго там дацягваць...»

І сапраўды, для каго? У тым канцы бадай што адны пенсіянеры, якая ўжо ад іх карысць...

Людзі ў наш час да многага зрабіліся абыякавыя, з многім змірыліся. Адно, чаго прагне душа кожнага працаўніка, — гэта сацыяльнай справядлівасці. І калі чалавек выракаецца сваёй роднай вёскі, то, можа, не таму, што яму бракуе патрыятычнага пачуцця да зямлі, дзе ён нарадзіўся, што ён пагарджае сваімі каранямі, не адчувае адказнасці перад сваёй малой радзімай. Усё гэта ён разумее і адчувае, і ўсё ж ідзе ў свет шукаць нечага, можа, хоча жыць не горш чым іншыя, мець тое, што даступна іншым. Ён жа бачыць, што варта толькі адцурацца свае роднае вёскі і ўладкавацца бліжэй да цэнтральнае сядзібы калгаса — і то колькі ўжо з гэтага выгод: тут табе і Палац культуры, і КБА, і бібліятэка, і стадыён. А падацца ў горад — яшчэ лепш! І дзеці твае не будуць мясіць гразь, дабіраючыся да школы ў суседнюю вёску, а будуць вучыцца ў спецшколе з матэматычным ці яшчэ якім ухілам. І калі ўдумацца ў тую сувязь, якая існуе паміж закрыццём у вёсцы школ, бібліятэк, клубаў, фермаў і выміраннем вёскі, то можна заўважыць, што першы працэс папярэднічае другому: спярша закрываюць, ліквідуюць, зносяць, вымушаюць чалавека жыць у цяжкіх умовах, неспрыяльных для нармальнага чалавечага жыцця, і ўжо потым гэты населены пункт пакідаюць людзі. Ці можна ў такім выпадку гаварыць аб натуральнасці міграцыі сельскага насельніцтва ў горад? Ці не паскараем мы яго штучна, замест таго, каб зрабіць усё неабходнае для яго спынення?

Трэба шчыра прызнацца, што, нягледзячы на наяўнасць розных культурных установ у вёсцы, яе культурны ўзровень вымушае жадаць лепшага. Пабудаваць, напрыклад, стадыён у вёсцы — гэта яшчэ не значыць далучыць вясковага жыхара да фізічнай культуры. Пакуль у працаўніка вёскі застаецца ненарміраваны працоўны дзень, яму цяжка будзе сумяшчаць працу з заняткам спортам. Ці не таму на калгасных стадыёнах можна хутчэй убачыць тых, хто ўладкаваўся на працу недзе паблізу, у горадзе, а на выхадныя прыязджае ў вёску. У кіраўніцтва калгаса імя Янкі Купалы ёсць задумка ў недалёкім будучым пабудаваць стадыён з закрытым басейнам і спартыўнымі заламі, дзе можна было б займацца рознымі відамі спорту і ў зімовы перыяд, калі вясковаму чалавеку вальней ад працы. Што ж, з'явіцца такі стадыён — з'явяцца і іншыя праблемы. Як заахвоціць людзей заняцца спортам? Падобныя праблемы зараз даводзіцца вырашаць работнікам клуба. Клуб у калгасе імя Янкі Купалы палацам не назавеш. Разважлівы гаспадар Уладзімір Сцяпанавіч не палез, як многія, у пазыку да дзяржавы і пабудаваў клуб такі, які дазвалялі сродкі, — невялікі, але вельмі ўтульны. У клубе асобны пакой займае бібліятэка. Работа бібліятэкара ў вёсцы заслугоўвае асобнай гаворкі, і таму я абміну пакуль што гэтую тэму. Спынюся на рабоце клуба, яго гурткоў. Дырэктарам клуба працуе Міхаіл Паўлавіч Магер, чалавек са спецыяльнай адукацыяй. Апрача яго, у клубе працуюць яшчэ два работнікі. Каб заахвоціць спецыялістаў і затрымаць іх у вёсцы, калгас даплачвае ім звыш зарплаты. Якую ж работу праводзяць на вёсцы работнікі культуры? У клубе, у глядзельнай зале час ад часу адбываюцца розныя ўрачыстасці, у будні дні тут «круцяць» кіно. У суботу і нядзелю — танцы. Спецыяльнай залы для танцаў няма, таму танцуюць у фае. Танцы з нядаўняй пары платныя, хоць умовы для іх не лепшыя. Цеснавата, няма гардэроба, таму верхняе адзенне скідваюць у асобным цесным пакойчыку, дзе няма нават вешалкі.

У клубе арганізаваны хор з сарака чалавек, ёсць аркестр духавой музыкі. Кожны раз перад выступленнем атмасфера ў клубе напружаная: работнікі клуба пры дапамозе праўлення калгаса намагаюцца неяк сабраць удзельнікаў самадзейнасці, а тыя шукаюць розныя прычыны, каб пазбегнуць гэтага. Нараканні адны і тыя ж: на апатыю людзей, абыякавасць... Паслухаеш, і пачынае здавацца, што і сапраўды вяскоўцам на сённяшні дзень нічога, апрача тэлевізара, не трэба. Кожны сам па сабе, кожны ў сваім кутку.

Мы сядзім у кабінеце старшыні прафкома Галіны Уладзіміраўны Ларчанкі. Адзінаццаць год працуе яна ў прафкоме, да таго была дырэктарам клуба, а яшчэ раней, як толькі прыехала ў калгас, працавала бібліятэкарам у Смётанцы. З тае далёкае пары я і ведаю Галіну Уладзіміраўну. У тыя гады бібліятэкар на вёсцы іграў вялікую ролю, ён не толькі выдаваў і мяняў кніжкі, ён быў нібы той стрыжань, на якім трымалася культурнае жыццё вёскі. Да Галіны Уладзіміраўны, ці ў той час проста Галі адразу ж далучыліся маладыя настаўнікі, падтрымалі ўсе яе пачынанні. А пра нашу вясковую моладзь і гаварыць не было чаго. Кожны вечар усе збіраліся ў халоднай прыбудове да клуба, дзе месцілася бібліятэка, і хутка там станавілася горача ад здаровага маладога смеху, ад цікавых задум. Я была тады вучаніцай малодшых класаў, нас на тыя зборышчы не пускалі, затое яшчэ з большым нецярпеннем і цікавасцю чакалі мы святочных вечароў, калі нашы артысты выходзілі на сцэну. Колькі прагучала з той сцэны беларускіх песень, вершаў, баек, балад! Якая ж гэта была радасць для працаўнікоў вёскі — такія вось святочныя канцэрты! І з якой павагай, у якой цішыні слухалі абавязковы перад канцэртам даклад, з якім выступаў хтосьці з настаўнікаў. Святкавалі ў тыя пасляваенныя гады на вёсцы «Дажынкі», «Купалле», «Каляды»... Галя не толькі вывучала, узнаўляла мясцовыя звычаі, традыцыі, абрады, але і імкнулася ўзбагачаць іх, прыўносіла нешта сваё, цікавае. Тады гэта не лічылася мерапрыемствам, гэта было жыццём. Успамінаецца, як у вёсцы, калі яшчэ не было ні палацаў культуры, ні дыпламаваных работнікаў, святкавалі ўвесну заканчэнне сяўбы, улетку — дажынкі, увосень — свята ўраджаю. На беразе Дняпра, у сонечным сасняку збіраўся люд з усіх навакольных вёсак. Іграў духавы аркестр, выступалі самадзейныя артысты, строга захоўваўся адпаведны святу рытуал, бойка ішоў гандаль. Людзі пасля напружанай працы ўрэшце давалі спачын сваёй душы. Сустракаліся з сябрамі, знаёмымі з іншых вёсак, не было канца размовам, жартам, смеху. Вольна, радасна адчуваў сябе і стары, і малы. Кожны знаходзіў тут сабе занятак. Гэта было сапраўднае свята, свята душы.

У апошнія гады падобныя святы праводзяцца ў калгасе інакш. Нават у сонечны, пагодлівы дзень збіраюць людзей у душную залу Дома культуры. Людзі знемагаюць ад духаты і ўрачыстых прамоў. Канцэрт, які прапаноўваецца працаўнікам вёскі пасля ўрачыстай часткі, ужо нікога не радуе. Выбавіўшыся ўрэшце на вольнае паветра, у разгубленасці тоўпяцца перад «очагом» культуры. Душа просіць свята, а яго няма. І невыпадкова многія скіроўваюць да сельскага магазіна, а ў апошні час у іншае месца, сціскаючы ў кулаку потныя рублі грашовай прэміі.

Зараз многа робіцца, каб узнавіць лепшыя традыцыі народа, звычаі, абрады. Гэта вялікая справа, трэба спадзявацца на лепшае, хаця вельмі цяжка ажыўляць тое, што выкаранялася дзесяцігоддзямі. Узяць, напрыклад, безалкагольнае вяселле. Чым запоўніць яго зараз? Пасля таго, як з поспехам выкаранілі нават у вёсцы ўвесь вясельны рытуал, у якім вяселле ўспрымалася людзьмі як вясёлы, жартаўлівы спектакль, у якім кожнаму адводзілася асобная роля, яно пакрысе ператварылася ў звычайную п'яную гулянку. Ці хацеў гэтага народ? Ці сапраўды ўжо ў яго такая непераадольная цяга да гарэлкі, ці гэта ўсё вынікі адной вялікай бяды, якая прывяла наша грамадства да страшнай хваробы — бездухоўнасці?

Вёску пакідаюць, вёскі выракаюцца, і ўсё ж вёска мае вялікую прыцягальную сілу. Дзе б ні жыў былы вясковец, праз усё жыццё пранясе ён тугу ў сэрцы па вёсцы, і, здараецца, туга гэтая пераважвае тыя выгоды, якія дае горад. Чым жа так вабіць да сябе вёска? Свежым паветрам, добрымі заробкамі ці новым Палацам культуры? Вясковы ўклад жыцця патрабуе ад чалавека з самага маленства такіх якасцей душы, як суперажыванне, чуласць, добразычлівасць, адказнасць за свае ўчынкі, якія цяжка схаваць ад людскога вока, як добрыя, так і дрэнныя. Тут усё больш узаемазвязана, больш падпарадкавана аднаму закону дабрыні і ўзаемадапамогі. Усё гэта часам і вызначае лёсы людзей, якія выбіраюць для сябе вясковае жыццё. І тут ужо размова ўшчыльную падыходзіць да ўмоў, у якіх давядзецца чалавеку жыць і працаваць. Вядома, сучасную вёску ніяк не параўнаеш з той, мінулай, дваццаціпяцігадовай даўніны вёскай. Аднак мы часта на набыткі сённяшняй вёскі пазіраем з дня мінулага, забываючы, што змянілася не толькі вёска, але змяніліся і самі людзі, іх меркі каштоўнасцей, іх патрабаванні да жыцця. Сёння ўжо, каб гаспадарыць на зямлі, недастаткова пабудаваць у вёсцы раскошны Палац культуры ці жывёлагадоўчы комплекс па апошнім слове навукі і тэхнікі, трэба быць чуйным да таго, чым і як жыве чалавек.

## ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ

# «Хораша ў нас на Волзе!»

### Якаў Свярдлоў і Максім Багдановіч

Ніжні Ноўгарад пачатку XX стагоддзя. Цэнтр прыцяжэння перадавой інтэлігенцыі — Максім Горкі. Ён, як вядома, вельмі клапаціўся аб лёсе дзяцей гравёра М. І. Свярдлова, а аднаму з іх — Зіновію — быў нават хросным бацькам.

Якаў Свярдлоў уступіў у рады сацыял - дэмакратаў 16-гадовым юнаком у 1901 г., і першы яго арышт, аб чым паведаміла «Искра» ад 20 снежня 1901 г., быў выкліканы ўдзелам у дэманстрацыі ў сувязі з высылкай Максіма Горкага з Ніжняга Ноўгарада. Аб гэтай дэманстрацыі падрабязна расказаў у сваіх мемуарах «Страницы из жизни Максима Горького» Адам Ягоравіч Багдановіч («мой закадычный приятель», як называў Адама Ягоравіча Горкі ў адным з лістоў да А. П. Чэхава), бацька паэта.

Пра сябе А. Я. Багдановіч пісаў: «Жыццё і кнігі зрабілі мяне народнікам, затым сацыялістам і, нарэшце, рэвалюцыянерам».

«Мяне выхоўваў бацька», — гаварыў Максім Багдановіч, па ўспамінах М. Агурцова («Шлях паэта»). Выхоўваў і час, насычаны чаканнем рэвалюцыйнай навальніцы, выхоўвала і бура 1905 года, які пачаў, па вобразнаму выразу Максіма Багдановіча, гісторыю сучаснай Расіі з новага радка.

У 1905 годзе, выконваючы адказныя даручэнні Паўночнага камітэта РСДРП і ЦК партыі, Я. М. Свярдлоў наведвае Яраслаўль, Казань, Маскву, Саратаў, неаднаразова прыязджае ў родны Ніжні Ноўгарад, дзе выступае на мітынгах з заклікам спыніць руска-японскую вайну і звергнуць самадзяржаўе. А. Я. Багдановіч у сваіх мемуарах піша, што ў памяшканні рэдакцыі «Нижегородского листка», супрацоўнікамі якога былі паплечнікі Леніна А. В. Яравіцкі і П. М. Кержанцаў (Адам Ягоравіч прыводзіць іх імёны), бываў М. А. Сямашка, а затым Я. М. Свярдлоў, які быў сакратаром прафесійнай арганізацыі друкароў у 1905 годзе.

Ці чуў Максім Багдановіч, чатырнаццацігадовы гімназіст, выступленні дваццацігадовага бальшавіка Якава Свярдлова? Прамых сведчанняў няма. Але прыгадаем старэйшага брата Максіма — Вадзіма Багдановіча. «З Якавам Міхайлавічам Свярдловым Вадзім, вядома, быў знаёмы, але ў гэты час гэта быў проста Яшка (для ніжагародскіх знаёмых, маецца на ўвазе. — **А. Б.**), з якім брат спрачаўся і змагаўся за ўплыў на моладзь». (З ліста Паўла Адамавіча Багдановіча Н. Б. Ватацы ад 26.03.1965 г.).

Прыгадаем удзел Максіма Багдановіча ў арганізацыі выбуху ў гімназіі восенню 1906 года «ў якасці пратэсту супраць рэакцыйных правадзін навучэнцаў, якія не пажадалі ўшанаваць памяць ахвар 18—19 кастрычніка 1905 года — барацьбітоў за свабоду», як гаварылася ў распаўсюджаным лісце.

Прыгадаем, нарэшце, радкі з ліста самога Максіма Багдановіча ў рэдакцыю «Нашай Нівы» ў кастрычніку-лістападзе 1913 года: «Паночкі! У № 42 «Н. Н.» бачу стаццю Сцяпана Зенчанкі. ...Пачуўшы, што Зенчанка — беларус, я пераслаў у турму да яго колькі першых беларускіх кніжак і «Нашу долю» (было гэта ў канцы 1906 г.). Аднак далі наша знаёмства не пайшло. І нават у вочы я Зенчанку ніколі не бачыў; сталася так таму, што па гораду пайшлі чуткі, быццам Зенчанка — правакатар...

Сколькі ў гэтым праўды — сказаць не магу, як Вы самі ведаеце, вінавацяць у правакацыі ў нас занадта лёгка, таму, здаецца, самым лепшым было б абвясціць аб гэтым толькі дзе каго са сваіх людзей і пільнаваць толькі, каб Зенчанка не ўбіўся да якой-небудзь беларускай і наогул грамадзянскай справы. Тым часам я напішу ў Ніжні Ноўгарад, каб мне далі больш пэўныя вядомасці». («Шлях паэта», стар. 122).

Да 80-годдзя рэвалюцыі 1905—1907 гг. у Горкім выйшла кніга В. В. Ніякага «Першая расійская рэвалюцыя ў Ніжагародскім Паволжы», дзе прыведзены снежаньскі бюлетэнь № 6 камітэта РСДРП аб выбранні забастовачнага камітэта ў складзе 10 чалавек, сярод іх названы і Зенчанка. Ніякім правакатарам ён не быў.

Адзначым, што М. Багдановіч, відаць, падтрымліваў сувязі з ніжагародскімі рэвалюцыянерамі не толькі ў 1905—1907 гг., але і пасля пераезду сям'і ў Яраслаўль у 1908 годзе, інакш як бы ён разлічваў атрымаць якія-небудзь дакладныя звесткі пра Зенчанку.

Я. М. Свярдлоў пасля ўдзелу ў дэманстрацыі 9 ліпеня 1905 года, якой была адзначана паўгадавіна крывавай нядзелі, у Ніжнім Ноўгарадзе не паяўляўся каля пяці год. Гэта былі гады напружанай партыйнай работы і на Урале і ў Маскве—па ўказанні ЦК ён садзейнічае аднаўленню маскоўскай партыйнай арганізацыі, узначальваючы Маскоўскі камітэт і Маскоўскі акруговы камітэт РСДРП. Цяжкую рэвалюцыйную дзейнасць перапыняюць неаднаразовыя арышты.

Вясной 1910 года Я. М. Свярдлова высылаюць этапам на тры гады ў Нарымскі край, але праз чатыры месяцы ён уцякае з Нарымскай ссылкі, заязджае ў Екацярынбург (цяпер Свярдлоўск) па жонку, разам з ёю едзе ў Перм, а адтуль на параходзе ў Ніжні Ноўгарад наведаць бацьку.

У лістападзе 1910 года Свярдлова зноў арыштоўваюць і зноў ссылаюць у Нарымскі край, адкуль у снежні 1912 г. ён уцякае ў Пецярбург, дзе, як член ЦК, кіруе сацыял-дэмакратычнай фракцыяй IV Дзяржаўнай думы і рэдакцыяй «Праўды». У лютым 1913 г. — чарговы арышт і ссылка ў Туруханскі край ужо да вызвалення пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года.

Сюжэт апавядання М. Багдановіча «Шаман» просты: на параходзе, які плыве па Волзе, два незнаёмыя адзін другому пасажыры вядуць размову аб паходжанні пачуцця прыгожага. Апавяданне напісана ад першай асобы, другога пасажыра аўтар называе спадарожнікам.

Працуючы над перакладам апавядання на рускую мову, я звярнуў увагу на вобраз спадарожніка: партрэт («...Чорная бародка, вусы, храшчаваты нос і карыя хваравіта-бліскучыя вочы. Гавора ён ёмка, шпарка, як чалавек, каторы нагаладаўся па гутарцы»); захапленне Волгай («Хораша ў нас на Волзе! — вымаўляе падарожны грудным, трохі сіпаватым голасам, — шырыня-то, шырыня-то якая! Добра сказаў аб гэтым Горкі Аляксей Максімавіч. Глядзіш, кажа, на Волгу, і не разумееш: ці яна табе ў грудзі плыве, ці сама з тваіх грудзей цячэ»); апісанне Ніжняга Ноўгарада і расказ аб думках у Нарымскім краі («...бо і там я пабываў») — усё гэта настолькі супадае з абліччам Я. М. Свярдлова і фактамі яго біяграфіі, што, здаецца, зусім верагодным лічыць: ён — прататып спадарожніка.

Апавяданне «Шаман» надрукавана ў «Нашай Ніве» ў 1914 годзе — за плячыма Свярдлова два ўцёкі з Нарыма.

У гады сваёй апошняй ссылкі ён, заўсёды цікавячыся гісторыяй мастацтваў, аб чым сведчаць лісты, захапляецца вывучэннем Туруханскага краю, дасылае нататкі ў газету «Сибирская жизнь» (Томск), друкуе пад псеўданімам А. М-ч у часопісе «Вестник Европы» ў ліпені 1915 г. вялікі нарыс «Туруханскі край».

А вось некалькі цытат з лістоў Я. М. Свярдлова, якія зместам пераклікаюцца з думкамі спадарожніка ў апавяданні «Шаман». (Цытаты ўзяты з тома 1 «Избранные произведения», М., Госполитиздат, 1957 г.).

**З ліста да жонкі К. Ц. Наўгародцавай-Свярдловай: «Литература, искусство сильно занимают. Они помогают понимать теоретически познанное развитие человечества. Так что помимо самостоятельного интереса, знакомство с ними важно. Я нахожу в них отражение общественных отношений». (Ад 19.I.1914 г.).**

**З лістоў да Кіры Эгон-Бесер, дачкі сяброў Я. М. Свярдлова: «...Всякое искусство, как порождение людей, носит на себе отражение той или иной человеческой среды». (Ад 15.II.1915 г.) «...Современное искусство значительно разносторонне искусства древних. ...Проследите эволюцию искусства и всюду увидите отражение этой более развитой жизни. И сознательно отражает лишь тот, кто изучил процесс этого развития.... Искусство для искусства — пустая фраза». (Ад 4.XII.1915 г.) «Эх, хорошо бы сейчас посидеть в Питере среди милых хороших друзей. Много бы говорили. Я и так «говорун» изрядный, а уж тут бы на радостях несколько часов подряд и рта не закрыл. Теперь я не много говорю, а мало. Так что несколько изголодался по хорошим разговорам». (Ад 19.III.1916 г.).**

Выклікае цікаўнасць амаль даслоўнае супадзенне самахарактарыстыкі Я. М. Свярдлова з апісаннем спадарожніка ў М. Багдановіча: «Гавора ён ёмка, шпарка, як чалавек каторы нагаладаўся па гутарцы».

Такім чынам, спадарожнік у апавяданні М. Багдановіча «Шаман» адбываў ссылку ў Нарымскім краі. Гэта чалавек высокай культуры, які добра ведае Ніжні Ноўгарад, магчыма, знаёмы з М. Горкім. Адзіны ніжагародзец, чыя біяграфія адпавядае нагаданым фактам, — гэта Я. М. Свярдлоў.

Дадам яшчэ, што М. Багдановіч уводзіў у свае творы знаёмых яму асоб і нават пад іх імёнамі. Так, у апавяданні «Экзамен» («Нёман» № 1, 1984 г.) прыгаданыя Аня і Вара, напэўна, сёстры яго сябра па яраслаўскай гімназіі Ганна і Варвара Какуевы, а ў ненадрукаваным пры жыцці апавяданні «Марына» гераіня названа імем і імем па бацьку дзяўчыны, якую М. Багдановіч кахаў: «Вы чулі, Ганна Рафаілаўна выходзіць замуж за Яна?» Ганна Рафаілаўна Какуева, сапраўды, выйшла замуж за Івана Лілеева.

Як любая гіпотэза, меркаванне аб прататыпе спадарожніка ў апавяданні М. Багдановіча «Шаман» патрабуе доказаў. Наколькі яны пераканаўчыя, мяркуйце самі.

**Аркадзь БАРАХОВІЧ.**

г. Горкі.

## НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

**З 2 ПА 8 МАЯ**

**3 мая, 20.40**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЁ ПІСЬМО...»**

Спачатку — пра ведамаснасць у добраўпарадкаванні пасёлка Ратамка, затым — адказы на мінулыя выступленні.

**3 мая, 21.50**

**«ЛІРА»**

З калекцыяй выдатнага рускага савецкага мастака А. Галавіна ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР пазнаёміць навуковы супрацоўнік Т. Рэзнік.

Навінкі кнігарні «Мастацтва», невялікія выстаўкі твораў беларускіх жывапісцаў, графікаў, якія часта там праходзяць, прадстаўляе дырэктар Г. Петлач.

На заканчэнне пабываеце на прэм'еры п'есы Галіна «Зоркі на ранішнім небе» ў Рускім тэатры БССР.

**5 мая, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**

Вершы Янкі Купалы чытае Ф. Варанецкі.

**6 мая, 19.50**

**«БУГ»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

У першым сюжэце вы ўбачыце сустрэчу Р. Барадуліна з брастаўчанамі.

Пазнаёміцеся з творчасцю маладога мастака В. Кавальчука, якога асабліва хвалюе гісторыя роднага горада.

Будзе прадстаўлены таксама новы зборнік паэтэсы З. Дудзюк.

У выкананні народнай харавой капэлы настаўнікаў музычных школ Іванаўскага раёна прагучыць фрагмент араторыі В. Перапёлкі на вершы П. Макаля «Поле маё старажытнае».

**7 мая, 12.10**

**«У НАРОДНАЙ ПАМЯЦІ ЖЫВЕ...»**

Рэпартаж аб сустрэчы пісьменнікаў у Доме-музеі Якуба Коласа.

**7 мая, 19.35**

**ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ВЕРНІСАЖ**

Паўлюк Пранузa. Старонкі жыцця. Перадача падрыхтавана да 70-годдзя з дня нараджэння.

**8 мая, 13.05**

У тэатрах рэспублікі. У. Шэкспір. «Макбет». Спектакль Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя Горкага.

Рэжысёр-пастаноўшчык Б. Луцэнка. Галоўныя ролі выконваюць народны артыст СССР Р. Янкоўскі і Н. Чамадурава.

**8 мая, 19.25**

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

Іграюць «Віртуозы Масквы». У праграме творы Моцарта і Чайкоўскага.

**8 мая, 20.05**

**«ПЕСНЯ НА УСЁ ЖЫЦЦЁ»**

Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання.

**8 мая, 23.10**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

**Р. БАРАДУЛІН.** Белая яблыня грому. На рускай мове. Прадмова В. Быкава. М., «Молодая гвардия», 1988.— 40 к.

**З. ДУДЗЮК.** Абрысы лета. Вершы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 25 к.

**В. КАРАМАЗАЎ.** Дзяльба кабанчыка. Выбранае. Прадмова М. Стральцова. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. —2 р. 30 к.

**Г. МАРЧУК.** Кветкі правінцыі. Раман, аповесць. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 1 р. 90 к.

**Я. СІПАКОЎ.** Веча славянскіх балад. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988.— 2 р. 70 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01171 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.